*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 17 чэрвеня 1988 г. № 25 (3435) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

Дружбакі.
Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## У НУМАРЫ:

**БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫІ, БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ!**
Анкета «ЛіМа» да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі
**2**

**АДКРЫТЫ ЛІСТ** першаму намесніку старшыні Дзяржаграпрома БССР Ф. У. МІРАЧЫЦКАМУ
**4—5**

*Якой быць «Гісторыі гарадоў і вёсак Беларусі»*
Артыкул І. КУДРАЎЦАВА
**5—7**

*Вершы*
Ю. СВІРКІ
*Апавяданне*
С. ТАРАСАВА
**8—9**

Хрысціянізацыя Русі і беларуская культура
**14—15**

## ДА XIX УСЕСАЮЗНАЙ ПАРТЫЙНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

Анкета «ЛіМа»

# БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫІ, БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ!

**«Якія праблемы вы ўзнялі б, на чым засяродзілі б увагу, калі б вам давялося выступіць з трыбуны XIX партыйнай канферэнцыі!» — з такім пытаннем «ЛіМ» звярнуўся да некаторых сваіх чытачоў. У мінулых нумарах газеты былі надрукаваны адказы Г. Далідовіча, К. Тарасава, Э. Ялугіна (20 мая), І. Вашкевіча, А. Казловіча (27 мая), Г. Вашчанкі, А. Рашчынскага (3 чэрвеня), А. Кудраўца, В. Якавенкі (10 чэрвеня).**

**Сёння слова бяруць народны артыст СССР, кампазітар Я. Глебаў і заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Шаранговіч.**

Яўген ГЛЕБАЎ



## ВЕРУ Ў РОЗУМ І РЭАЛІЗМ

Людзі, якія ўключыліся ў перабудову, з надзеяй чакаюць XIX партканферэнцыю. Чакаюць як нейкую кульмінацыю пэўнага этапу пераўтварэнняў, што пачаліся ў нашай краіне. Людзі зрабіліся больш актыўнымі, раскаванымі, я б сказаў нават — разняволенымі. Для мяне ўсцешна тое, як жыва і арыгінальна выказваюць свае думкі ўсё тыя ж нашыя суграмадзяне, што яшчэ чатыры гады назад гугнявілі зацвілыя лозунгі ці то з экрана, ці то са старонак друку. Мяне радуюць міні-інтэрв'ю з масквічамі пра іхнія ўражанні ад візіту прэзідэнта ЗША, радуе тон іхніх адказаў: спакойны, поўны годнасці і вялікадушнасці, усёразумеласці. Парадавала і адсутнасць ажыятажу і паказухі пад час візіту: адбыліся дзелавыя кантакты дзеля міру на ўсёй Зямлі, дзеля нашага лепшага жыцця.

Але нават у дні, калі ці не ўвесь свет сачыў за савецка-амерыканскім дыялогам на вышэйшым узроўні, думалася пра канферэнцыю — з надзеяй на адчувальныя змены ўжо не ў псіхалогіі людской, а ў пэўных сферах нашага жыцця матэрыяльнага. Змены тыя не адбудуцца, вядома ж, вокамгненна, але няхай яны хоць і паступова зробяць прагрэс незваротным. І — створаць глебу для свабоднага развіцця нашага духоўнага жыцця.

У грамадстве адкрыліся шлюзы галоснасці. Многае робіцца зразумелым, асабліва з меркаванняў простых людзей, якія пішуць, як думаюць, як разумеюць, як адчуваюць,—шчыра. Называючы ўсё сваімі імёнамі, называючы імёны тых, хто быў вінаваты ў нашых старых бедах, мы ачышчаем сябе знутры, вызваляем глыбока прыхаваныя боль і гнеў.

А ці не наспеў час сказаць і пра тых, хто цяпер вінаваты ў тым, што прабуксоўвае механізм эканамічнай рэформы, што па-ранейшаму ўзнікае «указующий перст» інстанцый па любых пытаннях? Як і раней, па-дылетанцку, некампетэнтна ажыццяўляецца кіраўніцтва духоўным жыццём. Па-ранейшаму ўзнікаюць чарговыя перагібы. Па-ранейшаму мы не жывём, а змагаемся, пераадольваем...

Я падзяляю трывогу, што выказваецца сёння ў друку, наконт складу дэлегатаў на партканферэнцыю. Калі меркаваць па спісе абраных дэлегатаў, сярод іх пераважаюць функцыянеры. Я не знаёмы з імі. Можа, яны з'яўляюцца палымянымі і кампетэнтнымі воінамі ў бітве за перабудову і складуць актыўную большасць на канферэнцыі, забяспечыўшы яе поспех. А калі — не? Калі сярод іх тыя, каму «абы дзень, ды мой», хто звыкла пагаджаецца з любым словам «зверху»?

Гэтыя людзі сёння валодаюць галоўным — рэальнай уладай, забяспечанай залатым запасам іхняга дабрабыту. Пазбавіцца такога «запасу» яны не захочуць. Ці не таму ўзнікае прабуксоўка, прыхаванае тармажэнне так неабходных нам зараз грамадскіх працэсаў? Хтосьці казаў, што благіх людзей не надта многа, ды яны добра арганізаваныя. Відаць, што так. Вось чаму я падзяляю меркаванні тых, хто занепакоены складам дэлегатаў і зыходам канферэнцыі.

І ўсё ж хочацца верыць, што занепакоенасць акажацца марнаю, што ўсё, выкладзенае ў Тэзісах, будзе развіта і зацверджана, што будуць знойдзены спосабы недапушчэння зваротнага руху, што з'явяцца рэальныя передумовы прагрэсу ва ўсіх сферах нашага жыцця і ва ўсіх кутках нашай Бацькаўшчыны.

Спадзяюся на тое, што да кіраўніцтва культурай прыйдуць інтэлігентныя, кампетэнтныя, зычлівыя і зацікаўленыя людзі, якія будуць ставіцца да свайго крэсла як да абавязку садзейнічаць росквіту культуры, а не як да крыніцы асабістага дабрабыту. Спадзяюся, што да нашай творчасці будуць ставіцца з разуменнем сацыяльнай значнасці працы музыкантаў — ці то кампазітараў, ці то выканаўцаў. Што незваротна адыдзе час, калі кампазітараў ушчувалі: маўляў, усё, што вы пішаце, нікому не патрэбна, бо любяць і ведаюць толькі песні. Я спадзяюся на ўсведамленне таго, што ўсе жанры — гэта неад'емныя часткі нашай музычнай культуры, яны павінны развівацца паралельна, а не ва ўрон ці насуперак адно аднаму. Толькі ўзаемадзеянне, а не супрацьпастаўленне, не амбіцыі, а супрацоўніцтва і ўзаемаразуменне—і кампазітараў, і выканаўцаў, і нашых агульных кіраўнікоў, — вось адзіна неабходны шлях. Цяпер, з эры абыякавасці, бездухоўнасці і неміласэрнасці нам трэба выводзіць моладзь да сапраўдных чалавечых каштоўнасцей, адводзіць ад цёмных інстынктаў «балдёжа» і «нюхацтва», гадаваць парасткі духоўнасці.

Я супраць пагардліва-панскага стаўлення да мастака. І спадзяюся, што ўсе — і мастакі, і кампазітары, і пісьменнікі, і кінематаграфісты, і акцёры — пераадолеюць цэнтрабежныя сілы, якія раз'ядноўваюць нас, што мы павернемся тварам адно да аднаго, да нашых агульных інтарэсаў і мэт. Мы неверагодна раз'яднаныя, і ў гэтым наша слабасць. Мы паасобку — безабаронныя, а ўсе разам — інертныя, маўчым у прынцыповых, крытычных сітуацыях. А мы ж маем патрэбу адно ў адным! У добрым слове і ў падтрымцы. І ў крытычнай думцы пра сваю працу — не ў такой, што маральна прыгнечвае, а ў такой, што спрыяе творчасці.

Калі я пішу пра нашу раз'яднанасць, дык спадзяюся, што мы пераадолеем яе разам, супольна, на ўзроўні тых намаганняў, якімі пераадольваецца ў нашай рэспубліцы моўная праблема. Разам нам, мастакам, лягчэй будзе пераадолець бюракратычныя перашкоды, ва ўзаемадзеянні і ўзаемаўзбагачэнні адно аднаго лягчэй будзе працаваць на нашу нацыянальную беларускую, а значыць і савецкую культуру.

З трывогай і надзеяй думаю пра канферэнцыю, якая павінна стацца вяхой новых унутрыдзяржаўных адносін. З Тэзісаў ЦК КПСС, на мой погляд, відаць галоўнае: заклапочанасць тым, каб знайсці, стварыць, а затым правесці ў жыццё «такія палітычныя механізмы і гарантыі, якія выключылі б у будучым магчымасць парушэння ленінскіх прынцыпаў кіраўніцтва грамадствам». Я веру ў розум і рэалізм.

Васіль ШАРАНГОВІЧ



## ДБАЦЬ ПРА ДУХОЎНЫ ЎЗРОВЕНЬ

Зрухі ў грамадскай свядомасці сёння відавочныя. У канчатковым выніку яны павінны прывесці да таго, што культура, духоўнасць зоймуць, нарэшце, належнае месца ў нашай сацыяльнай структуры. Калі я гавару пра культуру, я маю на ўвазе ў першую чаргу яе канкрэтную праяву — выяўленчае

## ПЕРАБУДОВЕ — ІДЭІ АБНАЎЛЕННЯ

# НЕ БУДЗЕМ НАІЎНЫМІ

Глыбока перакананы, што адно з самых важных пытанняў, якое павінна быць грунтоўна абмеркавана і вырашана на XIX партканферэнцыі, гэта пытанне аб міжнацыянальных адносінах у СССР, аб вяртанні ў гэтай сферы на сапраўды дэмакратычныя, ленінскія пазіцыі, без чаго дэмакратызацыя ўсяго грамадскага жыцця ў краіне немагчымая. У сувязі з гэтым хацеў бы выказацца наконт некаторых трывожных з'яў, якія сведчаць аб складанасці працэсу абнаўлення ў сферы ідэалогіі і маралі.

Наколькі цяжка ідзе перабудова — мы бачым усе. Прычына—не толькі лютае супраціўленне сталіністаў ды гадаванцаў эпохі застою, заўзятых абаронцаў адміністрацыйна-каманднай сістэмы. Немалая пагроза для перабудовы — і крыклівая спекулятыўная фраза, ілжэрэвалюцыйная дэмагогія, за якою—жаданне і разлік дарвацца да ўлады, захапіць пазіцыі, каб вынікі перабудовы падпарадкаваць сваім эгаістычным інтарэсам. Такога «перабудоўчага» пафасу ўсё больш у сённяшняй прэсе і з трыбуны. Яго часам нялёгка адрозніць ад шчырых галасоў народа. Ад тых сапраўдных мэт і задач перабудовы, што сфармуляваны ў партыйных дакументах. А трэба вучыцца адрозніваць, а то можа здарыцца бяда. Як пісалі класікі марксізму, «пока пролетариат борется, буржуазия крадется к власти». Буржуазіі ў нас, дзякаваць богу, няма, але ахвотнікаў да ўлады шмат. У прыватнасці, пакуль адны кідаюць сэрцы на шындзёлы, каб адваяваць нацыянальную школу, друк, тэатр, каб вярнуць гістарычную памяць народу і г. д., іншыя «актыўныя перабудоўшчыкі» першай мэтай ставяць — дай пазіцыі, дай уладу, дай права дыктаваць, павучаць, камандаваць!..

У друку паяўляюцца артыкулы, напісаныя нібыта ў падтрымку перабудовы, а пачынаеш чытаць—і што ж бачыш? Што гучная, размашыстая фраза — ёсць усяго прыём, каб усыпіць чытача, ёсць не больш як рыторыка, на прастакоў разлічаная. Сапраўдная ж мэта, дзеля чаго такія артыкулы пішуцца,—гэта звесці асабістыя рахункі, адпомсціць за крытыку або нават за нязгоду з пэўным поглядам на стан рэчаў. Адпомсціць, скажам, газеце, якая змагаецца за абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці. І таму не стала друкаваць нейчую псеўданавуковую дэмагогію. За гэта ж самае — ударыць, і як мага балючэй, пісьменніка, прынізіць і абразіць яго, параўнаўшы з якой-небудзь маральнай пачварай. Няважна, што ў літаратурнай і грамадскай дзейнасці пісьменніка няма ніякіх падстаў для такога параўнання. Абраза пушчана ў свет — мэта дасягнута.

Але ж помста за крытыку— гэта якраз і ёсць тое агіднае, звыродлівае, паскуднае, ад чаго наша грамадства рашыла пазбавіцца. Бо гэта—мараль часоў культаўскіх і застойных.

Па чым можна ў нас у Беларусі дакладна вызначыць, ці сапраўды голас у друку або з трыбуны прагучаў у падтрымку перабудовы? Па адносінах да лёсу народнага, да лёсу нашай мовы, нашай культуры— перш за ўсё. Будуць мове народа вернуты правы грамадзянства—і з імі сам народ пачуецца гаспадаром і творцам ва ўсіх іншых сферах сваёй жыццядзейнасці, гаспадаром свайго становішча, пачуецца наследнікам вялікай духоўнай спадчыны сваёй зямлі, яе прыгожых, здаровых звычаяў і традыцый, пачуецца духоўна і маральна ўпэўненым, без чаго ні ў працы, ні ў сям'і, ні ў адносінах да прыроды ладу не будзе. Вось—наш лёс, лёс народа, і значыць—адна з найпершых мэт перабудовы. Чаго ж у такім разе варта іншае пафаснае многаглагаленне, калі яно—цалкам у абмін гэтага? Нават—хоць і замаскавана—супроць гэтага?..

Адзін з прыёмаў, як адцягнуць увагу чытачоў ад галоўнага ў перабудове—гэта гаварыць (востра і смела!) пра дробязнае, прыватнае, і падаваць яго з душком смажаніны. Разлік ясны: хай не ўсе, але многія наіўныя «клюнуць». Пры гэтым можна спекульнуць на адносінах да самога чытача, якога, маўляў, трэба цаніць і паважаць, а вось нехта— і не паважае і не цэніць. Між іншым, чытачы—гэта жывыя людзі, і яны—вельмі розныя. Скажам, ёсць чытачы, якія ненавідзяць беларускую кнігу, не хаваюць сваёй пагарды да нашай мовы і культуры. Праўда, калі выгадна, такі чытач можа праявіць і пэўную цікавасць да гэтай самай нацыянальнай культуры, і прысмактацца да яе вялікіх імён, —калі гэта пахне добрым заробкам ці дапаможа зрабіць кар'еру.

Так, чытачы бываюць усякія. І зласлівы крытык—чытач, і іншы доктар навук ці нават акадэмік, які хоча муціць ваду брудам палітыканства, — чытач. Чытачом у сталінскія часы быў Лукаш Бэндэ. І ўсе, што каля яго групаваліся, яму памагалі,—таксама былі чытачы. Усе, што пісалі даносы, паклёпы, па якіх саджалі і расстрэльвалі выдатных беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, дзеячаў нацыянальнай культуры і мастацтва. Усё гэта былі чытачы, прычым «культурныя», з адукацыяй. І таксама лезлі ў маральныя, рэвалюцыйна-ідэйныя настаўнікі. Таксама тлумачылі Купалу і Коласу, што такое савецкі патрыятызм і пралетарскі інтэрнацыяналізм. Сёння мы ведаем, чаго каштавала іх «вучэба» нашай культуры, нашаму народу. Сённяшняе трагічнае становішча з мовай —гэта ў вялікай меры вынік іх дзейнасці. І калі мы сёння падымаем голас у абарону сваёй мовы і культуры і зноў чуем—на гэты раз пад сцягам перабудовы: Нацыяналізм! Правінцыялізм! Антыгуманізм! — трывожна робіцца на душы, вельмі трывожна!..

Сёння многія, у каго ёсць доступ да прэсы, пнуцца ў настаўнікі, бяруцца вучыць-павучаць іншых не толькі інтэрнацыяналізму, патрыятызму, але і культуры і этыцы. Праўда, не ўдакладняюць — якой культуры, якой этыцы? Можа, той, у якой вядучы пачатак — дзяляцтва і хцівасць, эгацэнтрызм і жорсткасць, нахрапістасць і фанабэрыя? Барані нас бог ад такой культуры і ад такіх маральных «вучыцялёў»! Там, дзе ўсё гэта мае месца, пра сапраўдную чалавечую мараль, пра сапраўды гуманістычную культуру гаварыць не прыходзіцца. Беларуская дэмакратыч-

мастацтва, дзе сканцэнтраваны мае прафесійныя інтарэсы. Але, зразумела, культура патрэбна і ў вытворчасці, у сферы кіравання, у чалавечых адносінах.

Далейшы лёс краіны і народа не ў апошнюю чаргу залежыць ад таго, наколькі мы зможам узняць духоўны ўзровень грамадства. Пакуль што культура на «рэшткавым фінансаванні», на яе выдаткоўваецца тое, што застаецца пасля ўсіх — сельскай гаспадаркі, прамысловасці, кіраўнічага апарату. Пры такім падыходзе перабудова можа зацягнуцца на неакрэслена доўгі тэрмін.

Не так даўно ў якасці сведчання росквіту ў нас прыводзіліся лічбы — колькі ў нас навучальных устаноў, музеяў, тэатраў, дыпламаваных спецыялістаў і г. д. у параўнанні з 1913 годам. Атрымлівалася шмат. А калі выходзіць з рэальных патрэб грамадства і ў параўнанні з развітымі краінамі, дык карціна была б не такая прыгожая.

Напрыклад, музеяў у нас да крыўднага мала. Нават у буйных гарадах іх амаль няма. Беларускае мастацтва прадстаўлена больш чым сціплай экспазіцыяй у Дзяржаўным мастацкім музеі. Тэматычныя выстаўкі, прысвечаныя тым ці іншым перыядам мастацтва, якія праводзяцца час ад часу ў ДММ, праблемы не вырашаюць, бо неабходна ўвесь час трымаць перад вачыма ўсю гісторыю, ўвесь мастацкі працэс. Інакш не выхаваць разумення традыцыі, павагі да спадчыны.

Мне, відаць, могуць запярэчыць: «А калгасныя галерэі?» А жаль, узровень твораў у гэтых галерэях часта не вытрымлівае крытыкі. Так што гэта не «культура ў масы», а прапаганда антыкультуры.

Нам ёсць чаму павучыцца ў іншых народаў. Больш за дзесяць год назад быў я ў Італіі. Мяне вельмі ўразіла, што нават у самых маленькіх мястэчках абавязкова ёсць карцінная галерэя. Там, дарэчы, можна пабачыць такое, чаго няма і ў Рыме. Нам да такога ўзроўню далёка. Не лепшыя ў нас справы і з краязнаўчымі музеямі, гістарычнымі экспазіцыямі. А калі да ўсяго гэтага дадаць жахлівы стан помнікаў гісторыі, дык робіцца зразумелым, адкуль вырастае нігілізм нашай моладзі.

Што ж азначае «рэшткавае фінансаванне» ў выяўленчым мастацтве? Фарбы, пэндзлі, папера — праблема нават для прафесіянала, члена Саюза мастакоў. А што тады рабіць студэнтам, навучэнцам і тым, хто наведвае дзіцячыя мастацкія студыі? Зноў успамінаю Італію. Школу накшталт нашай рэспубліканскай школы імя І. Ахрэмчыка. З пэўнай доляй зайздрасці прыгадваю інструменты і матэрыялы, што бачыў у італьянскіх дзяцей. Я такія рэчы і сёння павінен «даставаць». Якога мастака мы ў такіх умовах можам выхаваць? Чаму экстрэмальны стан зрабіўся для нас натуральным?

Асобнае пытанне — падрыхтоўка дызайнераў. Ёсць такая праблема ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, ёсць і па ўсёй краіне. Тут пытанне матэрыяльнага забеспячэння навучальнага працэсу стаіць яшчэ больш востра. Тут алоўкам ці пэндзлем не абыдзешся, патрэбны камп'ютэры, сучаснае паліграфічнае абсталяванне, лабараторыі.

Відаць, ад нашай матэрыяльнай беднасці і ўзнік «вешчызм», калі валоданне прэстыжнымі рэчамі стала сінонімам сэнсу жыцця. Адпаведна заніжаны маральныя крытэрыі стварэння ўласнага камфорту. Няма пашаны да чэснай працы.

Але ж будзем шчырымі. Тое, што гарантавана Канстытуцыяй не так ужо рэдка чалавек вымушаны выбіваць у бюракратычнай сістэмы з боем. У нас вельмі недасканалая сістэма размеркавання жылля, медыцынскага абслугоўвання, няма грамадскага кантролю за цэнаўтварэннем. Гэта недасканаласць нараджае «дзяржаўнага прыватніка», які задавальняе свае ўласныя, групавыя ці ведамасныя інтарэсы за кошт інтарэсаў грамадства.

Тут я бачу і корань экалагічных праблем: на знішчэнне прыроды і занядбанне культуры знаходзяцца эканамічныя абгрунтаванні. Аднак і эканоміка павінна абапірацца на мараль.

Рост эканамічнага патэнцыялу краіны прама залежыць ад матэрыяльнага і духоўнага ўзроўню жыцця яе грамадзян. Пачуццё адказнасці за лёс краіны (а гэта праява высокай духоўнасці) можа мець толькі той, хто адчувае сябе гаспадаром сваёй справы, свайго лёсу.

ная культура, народная інтэлігентнасць заўсёды былі заснаваны на сумленні, на сціпласці і дабрыні. Гэта — культура і інтэлігентнасць Багушэвіча і Цёткі, Купалы і Коласа, Багдановіча і Гарэцкага, Чорнага і Мележа—і яна ніколі не мела і не мае нічога агульнага з эрзац-культурай агрэсіўнага мяшчанства.

Сучасная свядомая беларуская інтэлігенцыя вызнае культуру, якая дасталася ёй у спадчыну ад вялікіх творцаў мінулага, а яны былі ў найвышэйшай ступені і патрыётамі і інтэрнацыяналістамі.

Міжволі ўзнікае пытанне, чаму ў іншых артыкулах мішэнню для абразлівых выпадаў выбіраюцца менавіта тыя працаўнікі на ніве беларускай культуры, якія ўсё свядомае жыццё *патрабавалі і патрабуюць* вяртання на ленінскія пазіцыі ў нацыянальным пытанні, справядліва бачачы ў адступленні ад гэтых пазіцый прычыну многіх нашых цяперашніх бед і няшчасцяў. Гэтых дзеячаў беларускай культуры сёй-той гатоў нават адлучыць ад перабудовы—ні больш ні менш. Якім чынам? А вельмі проста: у артыкулах аб перабудове ставіць іх імёны ў адмоўны кантэкст, аб'яўляе іх бюракратамі, правінцыяламі, людзьмі без культуры і этыкі. *Мы, маўляў, за перабудову, а ёсць і антыперабудоўшчыкі. Перабудова—гэта не іх лёс. Не могуць «людзі недасканалай, прымітыўнай культуры» быць змагарамі за абнаўленне! А таму—прэч іх!*

Вось чаму да ўсіх, каму сапраўды дорага перабудова, каму святая справа адраджэння нашай нацыянальнай культуры, а па сутнасці—адраджэння нацыі, да ўсіх, хто хоча, *каб мы, беларусы, жылі і былі*, — я звяртаюся з заклікам: не ашукайцеся! Не паддайцеся дэмагогіі! Трэба помніць, што супроць перабудовы ў нацыянальным пытанні ідуць дзве варожыя сілы. Першая: яўныя сталіністы, палітычныя рэакцыянеры, вялікадзяржаўныя шавіністы і абывацелі. Другая: псеўдаінтэрнацыяналісты, ілжэдэмакраты, дэмагогі, якія хочуць скарыстаць перабудову ў сваіх эгаістычных мэтах. Звярніце ўвагу, як гэтыя нібыта ідэйна палярныя сілы змыкаюцца і аб'ядноўваюцца між сабой на пагардзе і нянавісці да беларускай нацыянальнай культуры, да нашай мовы, як яны гуртуюцца ў страху перад ростам нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Яны ўсё табе даруюць: пусці з малатка фабрыку, вынішчы лес, загубі рэчку, прапі калгас,—усё могуць дараваць гэтыя аб'яднаныя сілы, усё, *але тваёй любові да роднае мовы*—не даруюць табе ніколі! Але клопату пра ўздым беларускай нацыянальнай самасвядомасці — ніколі!

Чым хутчэй усе сумленныя людзі гэта зразумеюць — тым лепш. Часу адпушчана не шмат. Гэта трэба зразумець сёння, заўтра, бо паслязаўтра можа быць позна. Не будзем наіўнымі. За наіўнасць мы ўжо неаднойчы дорага заплацілі.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

## ДВА ЛІСТЫ НА АДНУ ТЭМУ

# КАСТРЫЧНІЦКАЯ ПЛОШЧА СЁННЯ... А ЗАЎТРА?

22 КРАСАВІКА праз Беларускае радыё, а 25 і 26 красавіка публікацыяй карэспандэнта БЕЛТА Р. Новікава на старонках «Вячэрняга Мінска» і «Знамени юности» грамадскасць рэспублікі была інфармавана аб выніках конкурсу на эскіз-ідэю добраўпарадкавання Кастрычніцкай плошчы г. Мінска. У першую чаргу гэтая інфармацыя зацікавіла і разам з тым усхвалявала многіх мінчан.

Прызнаны лепшым праект добраўпарадкавання (аўтары: А. Шабалін, В. Данілаў, В. Новікаў, І. Міско, М. Рыжанкоў) прадугледжвае карэнную рэканструкцыю плошчы, яе пашырэнне — перш за ўсё за кошт зносу будынка Музея гісторыі войск БВА і «ўпарадкавання» зялёных насаджэнняў у былым Губернатарскім скверы. У выніку гэтага «ўпарадкавання» нам абяцаюць раскрыць панараму плошчы, зрабіць яе больш прасторнай, зрокава шырэйшай шляхам замены («не сякерай» — як абяцае Р. Новікаў) ліпаў і клёнаў «невысокай партэрнай зелянінай». Мяркуючы, што існуючыя будынкі перыметральнай забудовы выглядаюць рознастылёва, аўтары праекта з размахам вырашаюць праблему: знішчаюць сквер і, абнаўляючы добраўпарадкаванне «расчышчанай» пляцоўкі, узводзяць на месцы цяперашняй трыбуны «маштабны» помнік-манумент.

Што ж адбываецца? Навошта, у імя якіх каштоўнасцей спатрэбілася рабіць замах на ўтульны зялёны востраў у гарадскім цэнтры, на будынак музея БВА? Якія рэальныя набыткі ў выніку такой рэканструкцыі і якая плата за іх?

Узноўлены пасля Вялікай Айчыннай вайны Ленінскі праспект з серыяй плошчаў па праву лічыцца адным з дасягненняў беларускай архітэктуры. Гэта адзін з помнікаў навейшай гісторыі горада Мінска. Яго забудова, выкананая ў пасляваенны перыяд, уяўляе сабой завершаны архітэктурны ансамбль, узор архітэктуры савецкага «неакласіцызму» — багатай ляпнымі аздобамі, але дастаткова строгай і адухоўленай.

Шмат напісана аб прафесійна ўдалым вырашэнні перакрыжавання праспекта з рэчышчам Свіслачы. Спуск да вуліцы Я. Купалы — гэта пераход да паркавага ўчастка праспекта.

Натуральнымі ўкрапваннямі ў архітэктуры праспекта глядзяцца элементы даваеннай і дарэвалюцыйнай архітэктуры, якія разнастаяць яе (фрагменты забудовы на плошчы Леніна, будынкі на скрыжаванні з вул. Валадарскага і інш.).

Нарэшце, Цэнтральны сквер — жывая метафара гістарычных каранёў горада і яго вечнай маладосці.

Цяперашняя Кастрычніцкая плошча мае сваю гісторыю, сваю памяць і сваё актыўнае жыццё. Аўтары праекта, магчыма, не зусім усвядомлена прыносяць усё гэта існае ў ахвяру ўласным прафесійным амбіцыям. Яны рассякаюць вузел праблем плошчы, кіруючыся, здавалася б, добрай ідэяй узвелічэння ў камені нашых ідэалаў. На справе ж гэта пагражае парушэннем цэнтра горада, касметыкай, якая знішчае індывідуальнасць яго аблічча.

Такім чынам, на аснове той інфармацыі, якая з'явілася ў друку і прагучала па радыё, узнікаюць сур'ёзныя апасенні, што прызнаны лепшым праект (эскіз-ідэя) рэканструкцыі Кастрычніцкай плошчы г. Мінска ў выпадку яго рэалізацыі пацягне за сабой незаменныя страты для нашага горада.

Мы не можам пагадзіцца з прапанаваным праектам па наступных прычынах. Аўтары падышлі да ацэнкі існуючай зоны Кастрычніцкай плошчы з чыста фармальных архітэктурна-кампазіцыйных пазіцый. З абоймы ацэначных крытэрыяў практычна выпалі агульнакультурныя, гістарычныя, нарэшце, проста чалавечыя фактары. У выніку шэраг вартасцей гэтай гарадской зоны пераведзены ў разрад недахопаў. У выпадку рэалізацыі праекта плошча страціць гістарычна значны прыродна-архітэктурны ансамбль, які ўключае сквер, фантан, будынак тэатра Я. Купалы. Будзе нанесены ўрон той частцы гарадскога асяроддзя, якая фарміруе рашэнне рэальнага ўзросту горада. Да таго ж прапанаваны «велічны ансамбль» разбурае самую каштоўную для цэнтральнай часткі горада якасць камернасці, інтымнасці, набліжанасці да чалавека. Цяперашняя плошча жыве, стары сквер служыць месцам адпачынку, сустрэч. Ён з'яўляецца натуральнай рэкрэацыяй для грамадска-адміністрацыйных і культурных устаноў, якія акружаюць плошчу.

Праект парушае складзеную маштабнасць забудовы, яе даволі гарманічнае адзінства, спрабуючы адкрытай прасторай новай пашыранай плошчы злучыць цяжка злучальнае — такую розную архітэктуру навакольных будынкаў ЦК КПБ, Дома афіцэраў, Палаца прафсаюзаў, Палаца культуры рэспублікі, тэатра Я. Купалы. Існуючы сквер, наадварот, вырашае задачу іх арганічнага суіснавання, раздзяляючы і, разам з тым, аб'ядноўваючы асобныя пабудовы.

Прапанаванае вырашэнне — халодна-разумовае, адарванае ад жывога чалавека — фактычна выключае Кастрычніцкую плошчу з паўсядзённага жыцця гараджан, ператварае яе ў чарговы манументальны экспанат для экскурсантаў. Яно прадаўжае тэму афіцыйнай парадnasці ў нашым горадабудаўніцтве. А ці ж гэта нам патрэбна ў эпоху перабудовы і духоўнага абнаўлення?

Звяртаемся да грамадскасці горада і арганізатараў конкурсу на эскіз-ідэю добраўпарадкавання Кастрычніцкай плошчы з прапановай правесці сустрэчу-абмеркаванне матэрыялаў конкурсу і далейшага лёсу адной з галоўных плошчаў нашага горада.

**У. МАІСЕЕЎ, А. ХАРОШКА, Л. АГІБАЛАЎ, С. ГУРЫНОВІЧ, А. ШРАМКО**
**і іншыя супрацоўнікі Беларускага філіяла УНДІ тэхнічнай эстэтыкі — усяго 80 подпісаў.**

●

НЕ МОЖАМ не адгукнуцца на ўзнёсла-ўрачыстае паведамленне БЕЛТА «Кастрычніцкая плошча сёння і заўтра», у якім захоплена расказваецца пра запланаванае «добраўпарадкаванне», а фактычна пра знішчэнне цэнтра нашага горада, які гістарычна складваўся на працягу многіх гадоў з сярэдзіны мінулага стагоддзя.

У 1874 годзе ў Мінску запрацаваў водаправод. З гэтай нагоды быў пабудаваны сціплы фантан «Хлопчык з лебедзем», які і дагэтуль прываблівае гараджан сваёй мяккай лірычнасцю. Адначасова быў пасаджаны гарадскі сквер з каштоўнейшых парод дрэў.

Памяць захоўвае і трагічныя дні нямецкай акупацыі, калі першыя пакаранні беларускіх патрыётаў адбываліся менавіта ў гарадскім скверы.

Журналіст Р. Новікаў супакойвае: «Упарадкаванне зялёных пасадак будзе рабіцца не сякерай...» А як? Магчыма, праекціроўшчыкі і іх апекуны знайшлі спосаб перасадкі векавых дрэў «для добраўпарадкавання ў іншых раёнах горада»?

Няўжо журналіст і тыя, хто даў «дабро» на друк белтаўскаму паведамленню, забыліся пра гісторыю з сучасным вандалам-герастратам, які зламаў фігуру хлопчыка з лебедзем на фантане. Тады мы ўсе абураліся ўчынкам падлетка, а цяпер дарослыя дзяржаўныя «дзядзькі» плануюць знесці і фантан, і хлопчыка, а ўсе маўчаць...

Калісьці ўжо спрабавалі знішчыць сквер. У не такія ўжо і далёкія гады вяршаліны дрэў перакрывалі від з будынка ЦК КПБ, дарэчы, далёка не лепшага ўзору архітэктуры, на велічны калос І. В. Сталіна ў цэнтры плошчы. Але рухнуў калос, а не сквер. Што ж цяпер захацелася ўбачыць са сваіх вокнаў работнікам партыйнага апарату? Стандартны ў сваім рашэнні помнік брэжнеўскай застойнай архітэктурнай пампезнасці — палац-завод культуры, якія прыціснуў, здаецца, сам дух сціплага, але чыстага і гэтым багатага Мінска. І наогул, чаму б не захаваць для патомкаў такую нямілую аўтарам праекта новай Цэнтральнай плошчы «рознастылёвасць» і «хаатычнасць»? Яшчэ Віктор Гюго пісаў, што народ сваё імкненне да творчай дзейнасці выяўляе ў архітэктуры. Хай жа застануцца і двух-трохпавярховыя будынкі мінулага стагоддзя, і смелыя пошукі ў горадабудаўніцтве 20—30-х гадоў архітэктара Лангбарда, і псеўдакласіцызм сталінскай эпохі, і спробы зламаць ілжывую пампезнасць папярэдніка ў час хрушчоўскай адлігі, і, вядома ж, тое, што будуецца сёння. Але перабудоўваць усё нанова, не зважаючы на гісторыю, на памяць, не думаючы пра традыцыі горада, пра яго душу,— немагчыма, нават злачынна.

Толькі беражлівыя адносіны да нашых карэнняў, да духоўнай спадчыны народа дазволяць нам перадаць нашчадкам святы запавет: «Гэта — наша гісторыя! Захоўвайце яе!»

**С. СТАНЮТА**, народная артыстка СССР; **Г. АЎСЯННІКАЎ, З. БРАВАРСКАЯ**, народныя артысты БССР; **В. РАЕЎСКІ**, галоўны рэжысёр тэатра; **Т. АЛЯКСЕЕВА, Б. УЛАДАМІРСКІ, А. РЫНКОВІЧ, В. БЕЛАХВОСЦІК, А. ПАМАЗАН, А. МІЛАВАНАЎ**, заслужаныя артысты БССР; **З. СКАЧКОЎСКАЯ**, заслужаны работнік культуры БССР; **В. МАНАЕЎ, А. ДОЛГАЯ, А. УЛАДАМІРСКІ, З. ЗУБКОВА, Ю. АВЯР'ЯНАЎ, М. КІРЫЧЭНКА, Я. КАВАЛЁВА, А. ГАРЦУЕЎ, З. БЕЛАХВОСЦІК, І. ДЗЯНІСАЎ, В. ПАЎЛЮЦЬ**, артысты; **В. МАЕЎ, В. НІКІФАРОВІЧ, С. ДАМБРОЎСКІ** і іншыя супрацоўнікі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

гадна — не выгадна. Бо можна надаіць на карову і шэсць-сем тысяч літраў малака, ды сам не ўзрадуешся ад гэтага рэкорда, калі падлічыш, у якую капейку ён табе абышоўся. Толькі бяда ў тым, што мала хто лічыць. Хіба цяпер, калі ўкараніцца арэндны падрад, пачнуць па-сапраўднаму ўсё лічыць. Трэба наогул узаконіць арэндныя адносіны з дзяржавай — няхай зямля па Канстытуцыі застаецца ўласнасцю дзяржавы, а кааператыў будзе яе арандаваць і жыць ад зямлі, атрыманую ж прадукцыю па дагаворы прадаваць дзяржаве. Ну а калгас-кааператыў, які не ўмее ўзяць максімум прадукцыі з арэндаванай зямлі, хай аддае яе тым, хто ўмее гаспадарыць. Як вы на гэта гледзіце, Фёдар Уладзіміравіч?

ПА ІДЭІ на варце дэмакратычных правоў калгаснікаў, самастойнасці гаспадаркі павінен стаяць калгасны Статут. Ды, здаецца, з самага пачатку калгаснага руху Статут, складзены ўладай, быў накіраваны на тое, каб абмежаваць правы хлебаробаў. Так, напрыклад, Усесаюзны з'езд калгаснікаў у 1928 годзе пазбавіў членаў калектыўнай гаспадаркі права на абагульненую маёмасць у выпадку іх выхаду з калгаса, рэкамендаваў фарміраванне «непадзельнага капіталу», які не прадугледжана было дзяліць паміж членамі арцелі пасля выхаду з яе ці наогул ліквідацыі гаспадаркі. З цягам часу калгасны Статут наогул ператварыўся ў пустую паперку, у якую калі-нікалі зазіралі толькі дзеля формы.

Новы прыкладны Статут павінны былі прыняць на чацвёртым Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў, ды не прынялі, аказаўся ён не падрыхтаваным.

Сапраўды, не з усім у праекце новага Статута можна пагадзіцца. Многае перанята ў ім ад Закона аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні). А чаму не ад Закона аб кааператывах? *Тым больш*, што ставіцца задача аднавіць у вёсцы ленінскі кааператыўны план. Анахранізмам гучыць і такое месца ў праекце Статута: «Калгас — гэта добраахвотнае аб'яднанне сялян...» Як у трыццатых гадах? Але ж зараз ідзе гаворка аб тым, каб ператварыць калгас у добраахвотную кааперацыю пярвічных падрадных калектываў...

Або вось як гучыць першы пункт праекта Статута: «Калгас — сацыялістычнае сельскагаспадарчае прадпрыемства, якое дзейнічае ва ўмовах поўнай самастойнасці і самакіравання на аснове дэмакратычных прынцыпаў гаспадарання ў спалучэнні з дзяржаўным кіраўніцтвам». Дык усё-такі — прадпрыемства ці кааператыў? І што гэта за «поўная самастойнасць» у спалучэнні з «дзяржаўным кіраўніцтвам»? Зноў, як было раней? «Самастойнасць» на паперы і дзяржаўнае кіраўніцтва без усялякіх межаў?

І яшчэ адзін пункт Статута, які выклікае недаўменне: «Калгас — школа камунізму для сялянства». А слабы, занядбаны калгас? Таксама школа камунізму? Ці трэба кідацца такімі высокімі паняццямі? Тым больш, што шэсцьдзесят калгасных гадоў засведчылі: калгас з'явіўся не школай камунізму, а школай абязлічкі зямлі, школай, дзе селянін страціў свае адвечныя якасці — працавітасць, любоў да зямлі. Ці я памыляюся, Фёдар Уладзіміравіч?

Вось пра ўсё гэта і хацелася з вамі пагутарыць. І шкада, што гутаркі не адбылося. Справы, вядома, не вырашаюцца размовамі. Але ж пастаноўка пытанняў, высвятленне пазіцый — ці не першы крок да гэтага вырашэння?

З павагай

**Міхась ЗАМСКІ,**
**загадчык аддзела публіцыстыкі і нарыса газеты «Літаратура і мастацтва».**

---

**Іван КУДРАЎЦАЎ**

# БАЛЮЧЫ РОЗДУМ

## ЯКОЙ БЫЦЬ «ГІСТОРЫІ ГАРАДОЎ І ВЁСАК БЕЛАРУСІ»?

КОЖНЫ чалавек, як вядома, нараджаецца ў пэўным населеным пункце — на хутары, у пасёлку, вёсцы, горадзе. І куды з цягам часу ні закінуў бы яго лёс, як бы ні складаліся яго жыццёвыя абставіны, ён будзе помніць мясціну, дзе яму дадзена жыццё.

Але для кожнага з нас месца нашага нараджэння — не проста геаграфічны пункт, дзе мы пачалі адлічваць сваё жыццё-быццё. Нас цікавіць і жыццё-быццё яго самога, гэтага пункта. Нам хочацца ведаць яго гісторыю, калі і як ён узнік, якім чынам асталяваліся ў ім нашы бацькі.

Думаецца, няма асаблівай патрэбы даводзіць, наколькі неабходныя для ўсіх нас кнігі, у якіх былі б выкладзены гісторыі-расказы пра нашы пасёлкі, вёскі, гарады. Такіх кніг, на вялікі жаль, у нас пакуль што няма. Пра пэўны населены пункт з «глыбінкі» кароценькая гаворка вядзецца хіба толькі тады, калі ён з'яўляецца радзімай чым-небудзь слыннага чалавека.

У 1983 г. сектар Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР заканчваў шматгадовую працу над сямітомным выданнем «Збору...» Загадчык сектара С. В. Марцалеў (ён жа і дырэктар інстытута), думаючы над магчымай тэматыкай далейшай навуковай дзейнасці калектыву, спыніў свой выбар на тэме «Гісторыя населеных пунктаў Беларусі». Надзвычай важная, патрэбная, даўно наспелая тэма! Блізкая, зразумела, самому кіраўніку сектара — доктару гістарычных навук. А вось ці блізкая яна інстытуту, які называецца—«мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору», дзе да таго ж з 18 навуковых супрацоўнікаў сектара — гісторыкаў толькі палова?..

Сяк-так прыдумалі назву калектыву пад новую тэму (у той час сектары ў інстытуце былі перайменаваны ў аддзелы) — «Аддзел гісторыі культуры Беларусі». Вось так: гісторыю гарадоў і вёсак пішуць даследчыкі гісторыі культуры...

Тое, што акадэмічны інстытут узяўся за працу, якой цаны няма, — ісціна абсалютна *неаспрэчная*. Толькі **як** узяўся і **ці той інстытут** узяўся, **якія** могуць быць вынікі тае працы?— пра гэта ёсць падставы пагаварыць сур'ёзна і грунтоўна.

Размову хочацца пачаць са спасылкі на вопыт украінскіх навукоўцаў і дзеячаў культуры. Ім належыць гонар, бадай, упершыню ў краіне выдаць у 1967 — 1974 гадах дваццацішасцітомную «Гісторыю гарадоў і сёл Украінскай ССР». Такім чынам, для нас, беларусаў, ужо ёсць прэцэдэнт, ужо ёсць выданне, дзе вырашаны намеры і задумы, аналагічныя тым, над якімі нашым таварышам трэба яшчэ працаваць ды працаваць. (Падкрэслім, што праца ўкраінскіх калег атрымала высокую ацэнку грамадскасці і ўрада—яна адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР 1976 года).

Звяртае на сябе ўвагу, перш за ўсё, надзвычайная сур'ёзнасць і адказнасць, з якімі паставіліся на Украіне да гэтага выдання. Вось што сведчыць Галоўная рэдакцыйная калегія ў прадмове да тома «Кіеў»: «У падрыхтоўцы 26-томнай «Гісторыі гарадоў і сёл Украінскай ССР» прымалі ўдзел вучоныя, выкладчыкі вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, настаўнікі і студэнты, работнікі культурна-асветных устаноў і краязнаўцы, пісьменнікі, журналісты, архівісты, работнікі партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый. Увогуле ў стварэнні гэтай калектыўнай працы ў той ці іншай меры прынялі ўдзел каля 100 тысяч чалавек. Вялікую дапамогу аўтарскаму калектыву аказвалі вучоныя-гісторыкі, а таксама работнікі архіўных устаноў, бібліятэк і музеяў Масквы, Ленінграда, Беларускай і Малдаўскай ССР, шэрагу абласцей Расійскай Федэрацыі».

Умела і старанна арганізаваная праца дала адпаведныя вынікі — па кожнай з 25 абласцей Украіны і па стольнаму Кіеву створаны кнігі, у якіх знайшла грунтоўнае адлюстраванне гісторыя ўкраінскіх гарадоў і сёл на працягу стагоддзяў.

Задумваючы і арганізоўваючы працу над гісторыяй населеных пунктаў Беларусі, у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору зрабілі выгляд, што аналагічнага выдання ў краіне няма. Першаадкрывальнікамі сябе палічылі.

Магчыма, у нас вынайшлі *больш удалую, больш дасканалую* структуру творча-навуковага працэса, што таксама прывядзе да выдатных вынікаў, таму не было патрэбы звяртацца да вопыту суседзяў? Зрэшты, ці не зарана мы тут пачынаем біць у званы? Можа, пачакаем першых вынікаў і тады ўсяму дадзім належную ацэнку?

Не, не зарана, іменна на гэтай, пачатковай стадыі працы над важным і складаным выданнем ужо ўзніклі і высвеціліся праблемы і факты, што даюць падставы для заклапочанай размовы і трывожнага роздуму.

(Неабходна зрабіць адну вельмі істотную заўвагу: «у адрозненне ад украінскай «Гісторыі...», якая асвятляе гісторыі гарадоў, гарадскіх пасёлкаў і раённых цэнтраў, у нас вырашана ўключыць у выданне ўсе населеныя пункты, нават аднасядзібныя хутары. Гэта надзвычай важна і цікава для масавага чытача, але ж наколькі ўскладняе выданне, наколькі цяжэй ажыццяўляць яго!).

Якімі ж сіламі вырашана ажыццявіць такую — без перабольшання — грандыёзную задуму? Аднаго дзесятка ўласных гісторыкаў, супрацоўнікаў аддзела яўна не ставала. Правялі адпаведныя перагаворы і атрымалі прынцыповую згоду прыняць удзел у стварэнні «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі» ад акадэмічных інстытутаў гісторыі і эканомікі, педінстытута імя Горкага, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, Магілёўскага педінстытута, Гродзенскага універсітэта, Белдзяржуніверсітэта. Можна было шчыра радавацца і поўніцца аптымізмам — такі аўтарскі калектыў у стане справіцца з самымі складанымі навуковымі заданнямі.

Аднак прайшоў даволі значны час, і зрабілася відавочным, што гэтага не адбудзецца. І не адбудзецца таму, што чаканага аўтарскага калектыву як творчай адзінкі не ўзнікла. У большасці з названых устаноў удзел у працы над шматтомнікам пачаўся і скончыўся размовамі пра гэтую працу. Там, мяркуючы па ўсім, ужо і забылі, што нешта камусьці абяцалі, што трэба вывучаць і рыхтаваць нейкія матэрыялы для нейкага выдання...

Найбольшы ўклад у стварэнне «Гісторыі...» павінен быў унесці, зразумела, Інстытут гісторыі АН БССР. Яго гэта і профіль, яго і тэматыка. Праз некаторы час у Аддзяленні грамадскіх навук АН БССР, відаць, схамянуліся, што далі маху: у абодвух інстытутах прайшлі чуткі, што аддзел з тэмай «Гісторыя населеных пунктаў Беларусі» будзе пераведзены ў Інстытут гісторыі. Аднак тыя чуткі так і засталіся чуткамі: нібыта загадчык аддзела С. В. Марцалеў наклаў «вета» на гэту непажаданую для яго аперацыю...

І вось нешта праз год да аддзела ІМЭФ усё-такі далучыўся Інстытут гісторыі. Мабыць, трохі гучна тут сказана — «далучыўся інстытут»... На самай справе, толькі 2 чалавекі далучыліся. Так працягвалася да мінулага года, калі былі падключаны яшчэ 5 навукоўцаў.

Якія ж узаемасувязі супрацоўнікаў двух інстытутаў? Як жа яны ўзаемадзейнічаюць, выконваючы агульную тэму? Ды ніяк! У абедзвюх установах кожны работнік мае свой план, працуе над ім і ў належны час робіць справаздачу. У ІМЭФ гэта азначае — збіраючы звесткі па гісторыі населеных пунктаў запланаванага раёна, напісаць пэўны аб'ём лістажу (для малодшага супрацоўніка —два друкаваныя аркушы, для старшага — чатыры), у Інстытуце гісторыі — знайсці ў старадаўніх часах вёсак, сёл, гарадоў вызначаную колькасць гістарычна важных фактаў, эпізодаў, здарэнняў, *падзей* і г. д.

Але чаму адны і тыя ж архіўна-музейныя горы ў пошуках гісторыі адных і тых жа населеных пунктаў «пералапачваюць» супрацоўнікі двух інстытутаў? Нібыта не давяраюць адзін аднаму і падстрахоўваюць... Каму патрэбны такі дубляж? Няўжо ніхто не павінен адказваць за гэтую загадзя спланаваную марную трату немалых дзяржаўных грошай?..

Чаму б строга не размеркаваць зоны вывучэння і напісання матэрыялаў і пазбегнуць нічым не апраўданага паралелізму? Кожная вобласць падзелена на раёны, можа — і даручыць кожнаму работніку таго і другога інстытутаў пэўныя раёны? А, можа, супрацоўнікам Інстытута гісторыі, у якіх, акрамя кваліфікацыі гісторыкаў, за плячыма і практыка даследчыкаў гісторыі Беларусі, мэтазгодна было б узяцца за асвятленне найбольш складанага і мала вывучанага перыяду ў жыцці нашых населеных пунктаў — іх нараджэнне і перадкастрычніцкі час? Вось тут яны *і сказалі б* сваё важкае, эрудзіраванае слова.

А пакуль што...

Пакуль што калегі з Інстытута гісторыі сабралі сёе-тое з даўніны нашых вёсак, сёл і гарадоў. Можа, і тое, на што натрапілі супрацоўнікі ІМЭФ. Хто з *іх быў першаадкрывальнікам*, невядома: яны між сабой не знаёмыя, ні разу не сустракаліся, кожны меў магчымасць самастойна «вынайсці веласіпед»...

Аднак жа над стварэннем «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі» *фактычна працуе* адзін Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, удзел Інстытута гісторыі ў гэтым выданні колькі-небудзь адчувальным прызнаць нельга.

Што ж тычыцца арганізацыі працы, то зноў спашлюся на вопыт *Украіны*. У *кожным* раёне ствараліся рэдкалегіі, групы і камісіі займаліся зборам матэрыялу па гісторыі ўкраінскіх сёл і гарадоў.

Галоўны рэдактар «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі», як ні дзіўна, вырашыў абысціся без дапамогі мясцовых энтузіястаў і знаўцаў. Больш таго, ні ў абласны цэнтр (у дадзеным выпадку — Магілёў), ні ў адзін раённы цэнтр вобласці не было паведамлена, што рыхтуецца кніга па гісторыі Магілёўшчыны, і вельмі пажадана па магчымасці дапамагаць работнікам інстытута, якія займаюцца гэтым.

Толькі 14 мая 1986 г., г. зн. праз паўтара года ад пачатку працы над кнігай, дырэкцыя інстытута паслала першаму сакратару Магілёўскага абкома *партыі адпаведную адносіну. І* не дзіўна, што ў раёнах даводзілася сустракацца з выпад-

(Заканчэнне на стар. 6).



Фотаэцюд В. БЫСАВА.

## ДУМКА ЧЫТАЧА

# «Несці людзям праўду...»

Сёння мы з асаблівым нецярпеннем чакаем «тоўстыя» і «тонкія» ўсесаюзныя выданні, якія, як ніколі раней, даюць цікавейшы матэрыял для духоўнага ўзбагачэння. Мы вельмі добра інфармаваны, што ў іх надрукавана ці будзе надрукавана ў бліжэйшы час, займаем чаргу на часопіс з цікавай аповесцю, раманам альбо публіцыстычным артыкулам, а прачытаўшы, ажыўлена абменьваемся думкамі і ўражаннямі.

На жаль, куды горш многія ведаюць, што робіцца ў беларускіх выданнях, чым яны радуюць чытача.

Чаму? У чым тут справа? Чаму нават многія калегі-журналісты не чытаюць беларускія часопісы? Пачнеш гаварыць аб цікавым творы ў іх — слухаюць цябе з нейкім здзіўленнем. Маўляў, і ёсць у цябе час займацца «глупствам». Аж няёмка сябе адчуваеш, быццам і сапраўды робіш нешта не тое.

Яшчэ больш здзіўляюцца, калі даведваюцца, што ўсе чатыры гады жыцця ў Сібіры выпісвала часопісы «Маладосць» і «Полымя».

А што казаць у такім выпадку пра камсамольскіх работнікаў? Рэдка хто з іх, нават тыя, хто атрымаў філалагічную адукацыю, мае глыбокія, сістэматызаваныя веды па беларускай гісторыі, літаратуры, культуры.

*Тлумачыць гэта* толькі дрэннай падрыхтоўкай у ВНУ, недахопамі падручнікаў лічу неапраўданым. А асабісты інтарэс, патрэба ведаць больш, чым па праграме?

Інакш аб якім сур'ёзным узроўні палемікі, скажам, з прадстаўнікамі тых жа нефармальных аб'яднанняў можа ў такім выпадку ісці гаворка?

Канечне, дзеля аб'ектыўнасці трэба зазначыць, што нашы рэспубліканскія часопісы і газеты доўгі час мала радавалі навізной, смеласцю і арыгінальнасцю думкі. Гэта — з аднаго боку. А з другога, зноў жа, у наяўнасці і чытацкі снабізм, пагарджанне мясцовымі выданнямі (маўляў, нічога цікавага тут няма) ды і проста «нязвычка» чытаць іх рэгулярна.

Што ў такім разе можна гаварыць аб радавым чытачы? І як можна дапамагаць яму, скажам, запаўняць «белыя плямы» гісторыі, калі тыя, хто закліканы рабіць гэта, не валодаюць матэрыялам?

А цяпер жа столькі цікавага, раней невядомага на старон*ках нашых часопісаў і газет!* І тут, на мой погляд, пальму першынства трэба аддаць «ЛіМу». Артыкулы па пытаннях культуры і гістарычнай памяці, прызнанне ўкладу, зробленага ў беларускую літаратуру і культуру Алесем Гаруном і Цішкам Гартным, — усё гэта істотна падняло аўтарытэт газеты, зрабіла яе цікавай.

На жаль, мы ніяк не можам прывыкнуць да таго, што цяпер паявілася магчымасць друкаваць розныя погляды і думкі. А гэта ж вельмі добра, бо адразу бачыш, «хто ёсць хто».

Чытаеш часопісы тых гадоў — «Маладняк», «Полымя рэвалюцыі», «Узвышша» і іншыя, — і сэрца сціскаецца ад тугі і болю. Якая моцная і цікавая літаратура, сапраўдны рэнесанс! І якія «моцныя» адначасова абвінавачванні адзін аднаго ў розных «палітычных» *грахах накшталт «нацдэмаўшчыны»!..*

На якім узроўні была б сёння беларуская літаратура (ды не толькі яна), калі б не здарылася неапраўданых ахвяр! Ды і адносіны да яе былі б больш тактоўныя, паважаныя, добразычлівыя.

Страх, недавер адзін да аднаго, зайздрасць і іншыя негатыўныя якасці, што з'явіліся ў часы сталіншчыны, доўга яшчэ будуць адгукацца. А таму трэба больш і больш друкаваць і твораў і артыкулаў, якія дапамогуць нам, і асабліва моладзі, лепш зразумець карані сталіншчыны, выкарчаваць іх назаўсёды.

У другім нумары «Нёмана» за гэты год надрукавана да*кументальная аповесць* Э. Ялугіна пра Цішку Гартнага. Хоць дасведчанаму чытачу хацелася б большай дакументальнай насычанасці твора, але тым не менш аповесць запоўніла «белую пляму» ў адносінах да гэтага выдатнага грамадскага дзеяча і пісьменніка. Два моманты ў аповесці ўяўляюцца асабліва важкімі. Першы: паказ вельмі няпростай сітуацыі пры стварэнні Беларусі як рэспублікі, ролі Сталіна (усё было куды складаней, чым многія мяркуюць і ведаюць, у чымсьці драматычна). І другі: разважанні пісьменніка пра карані і вытокі беларускай культуры і літаратуры, аб тым, які ўклад у іх унеслі людзі розных нацыянальнасцей, што нарадзіліся і выраслі на Беларусі. Гэта аб'ектыўны, прадуманы, узважаны падыход да пытанняў інтэрнацыяналізму.

*Цяжка прадугадаць, але, відаць, цікавасць да гэтай аповесці* больш праявяць прафесійныя літаратары, крытыкі, чым масавы чытач.

Чаму так атрымліваецца? Можа, адна з прычын у тым, што настаўнікі школ, якія павінны больш чым хто ўплываць на чытацкія густы моладзі, самі «не ў курсе»?

Па радыё цяпер рэгулярна перадаюць агляды беларускіх часопісаў, а таксама «ЛіМа», але гэтага яўна недастаткова. Бо агляды гэтыя ўсё ж павярхоўныя. І зусім нікуды не варта тая «рэклама», што друкуецца штомесячна на старонках газет. Называецца аўтар публікацыі, у двух-трох словах змест твора — і ўсё. Гэтым чытача не прывабіш.

*Хіба не шкада, да прыкладу,* што многія не звярнулі ўвагу на «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя (А. Шашалевіча), надрукаваныя ў першым-другім нумарах часопіса «Полымя»? Да гэтага часу знаходжуся пад іх уражаннем. Прадбачлівасць аўтара проста ашаламляльная. Яго твор у чымсьці блізкі да «Катлавана» А. Платонава, хоць напісаны яны на розным жыццёвым матэрыяле і розным узроўні сатырычнага майстэрства. Ды і лёс аўтараў падобны. Хаця А. Платонаў фізічна рэпрэсіраваны не быў, але на доўгія гады быў выключаны з літаратуры. Жыццё А. Мрыя аказалася яшчэ больш трагічным. Пасля забароны «Запісак...» яго арыштавалі. Не адчуваючы за сабой віны, ён піша пісьмо «Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну», якое змешчана перад пачаткам рамана.

*Думаецца, што асобныя* моманты пісьма трэба было б усё ж такі пракаментыраваць. Асабліва тыя месцы, дзе Шашалевіч растлумачвае свой арышт «інтрыгамі» А. Вольнага і А. Дудара, іх «паказаннямі». Гэта неабходна было зрабіць, каб чытач не зразумеў, быццам уся справа была ў асобных «дрэнных» людзях.

# БАЛЮЧЫ РОЗДУМ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

камі, калі ад вучоных супрацоўнікаў адмахваліся, як ад назойлівай мухі: у нас сваіх спраў хапае, не ставала яшчэ гэтых клопатаў...

З якімі ж набыткамі вернецца *інстытуцкі работнік з такой* камандзіроўкі?..

Упэўнены, што вельмі карыснай для збору матэрыялаў па гісторыі пэўных раёнаў былі б публікацыі ў раённых газетах артыкулаў - зваротаў, у якіх расказвалася б пра характар выдання, якое рыхтуецца, і змяшчалася просьба паспрыяць гэтаму выданню.

Працуючы над гісторыяй Салігорскага раёна, я надрукаваў такі артыкул - зварот у газеце «Шахцёр». І неўзабаве пайшлі лісты — шчырыя, заклапочаныя, усхваляваныя. Пісалі ў асноўным людзі паважнага веку — ветэраны вайны і працы, пенсіянеры. Лістам гэтым няма цаны, яны даюць па гісторыі населеных пунктаў звесткі і матэрыялы, якія не толькі ўзбагацяць выданне, паглыбяць яго, а можа, і з'явяцца адкрыццямі пэўных фактаў, падзей.

Чамусьці ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору да гэтай абсалютна бяспрэчнай, па-мойму, ісціны ставяцца, мякка кажучы, скептычна. Калі ў свой час была выказана ідэя, што кожны супрацоўнік аддзела абавязаны надрукаваць у раённай газеце запланаванага яму раёна артыкул - зварот да чытачоў, то ідэя была прынята і недзе нават запісана. Але на тым запісу ўсё і скончылася. Ужо лічыцца завершанай праца над магілёўскім томам, а ні ў адной з раённых газет вобласці артыкулы не з'явіліся. У поўным разгары збор матэрыялаў па гісторыі Мінскай вобласці, дакладна размеркаваны ўсе 22 раёны, — артыкулы надрукаваны толькі ў салігорскай і стаўбцоўскай газетах. Калі з'явяцца артыкулы ў астатніх 20 раёнах і ці з'явяцца яны ўвогуле — невядома.

Як жа планавалася выданне і праца над ім?

У інтэрв'ю з карэспандэнтам «ЛіМа» ад 15 лістапада 1985 г. дырэктар ІМЭФ АН БССР С. В. Марцалеў, расказваючы пра характар «комплекснай праблемы «Гарады і сёлы Беларусі», заявіў: «...Першы том, які выйдзе ў 1988 годзе, будзе прысвечаны... Магілёўшчыне». Завершыцца шматтомнік у 1997 годзе.

Як бачым, згодна разлікам і абяцанню інстытуцкага кіраўніцтва ў гэтым годзе мы атрымаем першы том выдання. Значыць, трэба рыхтавацца да сустрэчы з радасцю, якую кніга прынясе шматлікім чытачам, што хочуць як мага больш ведаць пра родны край, яго мінуўшчыну і сучаснасць?

Не, пакуль што не трэба рыхтавацца. Ні ў гэтым годзе, ні ў наступным. Што ж здарылася? Чаму парушаны план і не спраўджваецца абяцанне дырэктара інстытута?

Асноўны адказ заключаецца ў тым, аб чым гаварылася вышэй. *Занядбаўшы вопыт* украінскіх калег, якія працавалі з дапамогай шырокай грамадскасці, не атрымліваючы колькі-небудзь істотнай падтрымкі з боку калектываў навукоўцаў, што меліся быць саўтарамі выдання, супрацоўнікі нашага інстытута вырашылі аднаасобна выцягнуць небывала цяжкі груз, навалены на іх плечы. І вось *выявілася, што сіл для гэтага* ўсё-такі малавата...

Як і ў час працы над «Зборам помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», тыя ж супрацоўнікі, пераключаныя на тэму «Гісторыя населеных пунктаў Беларусі», гэтак жа ездзяць у адпаведныя раёны ў камандзіроўкі, збіраюць там матэрыялы. Наведваюць, вядома, архівы, музеі, бібліятэкі, здабываюць і там патрэбныя матэрыялы. Але адна справа — даваць для «Збору» інфармацыйны матэрыял пра пэўныя помнікі ў пэўным населеным пункце і зусім іншая — напісаць яго гісторыю ад узнікнення да нашага часу. Тут ужо звесткамі-інфармацыямі, якія ў кожнай вёсцы і горадзе навідавоку, не абыдзешся, трэба сягнуць у гісторыю — біяграфію пэўнага населенага пункта і адлюстраваць яе. А яны ж, біяграфіі канкрэтных пасёлкаў, вёсак, гарадоў, як і ў людзей, адметныя, індывідуальныя. Значыць, ледзь не ў кожным выпадку патрэбны творчы падыход для стварэння «партрэта» населенага пункта.

Пачаты ў 1984 годзе том «Гісторыя населеных пунктаў Магілёўскай вобласці» лічыцца скончаным. Шырока разгарнулася праца над чарговым томам — «Гісторыя населеных пунктаў Мінскай вобласці».

Некалькі ўжо абмеркаваных і — на думку галоўнага рэдактара — гатовых раёнаў Магілёўшчыны былі прадстаўлены ў выдавецтва «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», якое будзе займацца выпускам шматтомніка, — для азнаямлення. Як сказаў мне намеснік галоўнага рэдактара «БелСЭ» А. Л. Петрашкевіч, у асобных раёнах, на яго погляд, ёсць цікавыя нарысы. А вось што датычыць жаданых гісторый усіх населеных пунктаў...

Адказная за выпуск С. П. Самуэль паведаміла, што ў сувязі з такой затрымкай выданне першага (магілёўскага) тома не плануецца ні ў наступным годзе, ні ўвогуле ў гэтай пяцігодцы. Да таго ж, нават атрымаўшы гатовы першы том, выдаўцы, каб запусціць надзейны вытворчы канвеер, павінны мець 2—3 падрыхтаваныя тамы.

Але мяне не так хвалюе час з'яўлення першай кнігі шматтомніка, як іншая, куды больш важная рэч. Глыбока занепакоены і ўстурбаваны я тым, якая гэта будзе кніга, ці спраўдзіць яна нашы надзеі. Сур'ёзныя падставы для такой занепакоенасці ёсць. Яны і нарадзілі гэты мой балючы роздум.

Пазнаёміўшыся з матэрыяламі па многіх раёнах магілёўскага тома, удзельнік абмеркавання некаторых з іх, я склаў даволі поўнае ўяўленне пра творчы ўзровень і навуковую вартасць гэтага тома. Хачу выказаць некаторыя свае меркаванні пра вынік гэтай першай спробы.

Могуць запярэчыць: ці варта даваць ацэнку тому, які пакуль што толькі ў рукапісе, над якім будзе яшчэ сур'ёзная праца ў выдавецтве, адпаведнае рэдагаванне? Так, *і праца, і рэдагаванне* ў «БелСЭ» будуць, але ж кардынальнай пераробкі, перапісвання нанова выдавецтва не гарантуе. Значыць, ёсць усе падставы разглядаць і рукапіс — вырашаць, варты ён рэдагавання ці патрабуе фундаментальнай дапрацоўкі.

Возьмем, да прыкладу, рукапіс аднаго з раёнаў Магілёўшчыны — Бабруйскага. Яго аўтар — гісторык са значным творчым стажам, кандыдат гістарычных навук Г. І. Дулеба. У параўнанні з іншымі гэты рукапіс, бадай, найбольш удалы ў томе. У ім сабрана даволі многа звестак пра населеныя пункты Бабруйшчыны, прыведзены цікавыя факты і падзеі. Ды вось бяда і гэтай лепшай працы — яна не ўспрымаецца як цэласная гісторыя раёна, выкладзеная лагічна, звязана. Атрымаўся інфармацыйны даведнік, які стракаціць датамі, лічбамі, фактамі, назвамі, прозвішчамі. Нават нарыс пра Бабруйск, горад з адметнай і багатай гісторыяй, напісаны паводле агульнага для ўсіх іншых матэрыялаў штампу — пералік у гістарычнай паслядоўнасці пэўных фактаў і падзей.

Так выданне — хочуць таго супрацоўнікі ці не — няўмольна набывае прымітыўна-даведніцкі ўзровень.

Мяркуйце самі. Кожны супрацоўнік павінен вызначыць паходжанне назвы вёскі, пасёлка, горада. Вось і вызначае Г. І. Дулеба: Баркі — «ад слова бор (тып лесу)», Бярозавічы—«ад асновы слова бяроза (від дрэва)», Вербкі—«ад пароды дрэва вярба», Віктараўка — «ад імя Віктар», Вішнёўка — «ад слова вішня (парода дрэва)», Гарохаўка — «ад слова гарох», Дварышча — «ад слова двор», Дубаўка — «ад пароды дрэва дуб», Крапіўка — «ад слова крапіва (расліна)», Лужанец — «ад геаграфічнага (!!!) тэрміна лужа (паніжанае месца, якое занята вадой)», Палянкі — «ад тэрміна паляна (бязлеснае месца сяродляснога масіву)» і г. д., і г. д.

Звярнулі ўвагу на глыбакадумныя заключэнні? А пазначаныя ў дужках навуковыя тлумачэнні?.. Каб цалкам пераканаць чытача-скептыка ў дакладнасці вывадаў, у многіх выпадках з дапамогай зносак яго адпраўляюць да навуковых крыніц, і ён ужо не будзе сумнявацца, што Грабава — «ад пароды дрэва граб», Каменка — «ад слова камень»...

Г. І. Дулеба, як і многія яе калегі, чамусьці не звярнула належнай увагі і на два іншыя пункты ўсіх патрабаванняў. Адзін датычыцца часу калектывізацыі, другі — часу Вялікай Айчыннай вайны.

Агульнавядома, што азначаў у гісторыі кожнай вёскі і сяла пераход на калектыўны лад жыцця, якімі бурнымі былі тагачасныя гады. А вось многія навукоўцы, пішучы іменна гісторыю населеных пунктаў, лічаць не абавязковым асвятляць гэты іх этап. Не заўсёды адзначаецца, калі і які калгас, камуна, саўгас былі заснаваны, якія ў далейшым змены адбываліся з імі (аб'яднанні з суседнімі гаспадаркамі, перайменаванні). Часам гэта вельмі нялёгка ўстанавіць, не ўсё і не ўсюды дакументы з тых часоў захаваліся. Але ж устанавіць трэба!..

Не аддалі належнага стваральнікі «Гісторыі населеных пунктаў Магілёўскай вобласці» і часу Вялікай Айчыннай вайны. А кожны пасёлак, вёска, горад так ці інакш прынялі ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкай навалаччу.

Зразумела, і тут ёсць немалыя цяжкасці і складанасці. Зроблены недаравальныя ўпушчэнні некаторымі ваенкаматамі, райвыканкомамі, сельсаветамі, якія ў свой час не склалі адпаведных спісаў удзельнікаў вайны і людскіх страт, нанесеных ёю. Цяпер у многіх выпадках даводзіцца здабываць патрэбныя звесткі цаной настойлівых пошукаў. Старажылы і ветэраны Вялікай Айчыннай (шэраг іх, на вялікі жаль, ужо моцна парадзелі) яшчэ могуць успамінаць, хто з вяскоўцаў і дзе вая-

Дзесяткі рэпрэсіраваных пісьменнікаў (ды ці толькі яны?) «паказвалі» і на сябе і адзін на аднаго, бо цяпер добра вядома, якім чынам выбівалі з іх гэтыя «прызнанні».

У свой час мне давялося гутарыць з малодшай сястрой Анатоля Вольнага. Яна расказвала, як аднойчы маці нейкім чынам удалося прарвацца на спатканне з сынам. Анатоль быў увесь збіты і заплакаў, убачыўшы маці: «Я ні ў чым не вінаваты, не разумею, што адбываецца». І як зразумееш, калі амаль перад арыштам *Вольнаму было прысвоена* званне «Ганаровы дзеяч мастацтваў БССР»?

Ды ці толькі ён «не разумеў»?

Наогул, раздзел «З літаратурнай спадчыны» найбольш цікавы ў часопісах. У трэцім нумары «Полымя» надрукавана вялікая нізка вершаў Алеся Бачылы, напісаных у асноўным больш як дваццаць гадоў назад. *Відаць, не перабольшваннем* будзе сказаць, што пасля надрукавання ў «ЛіМе» яго паэмы адбылося новае адкрыццё паэта (ва ўсялякім разе — для мяне, як, дарэчы, і С. Грахоўскага пасля яго «Балючай памяці»). А трэці нумар «Нёмана» надрукаваў некалькі старонак-успамінаў жонкі вядомага яўрэйскага паэта Ізі Харыка.

А яшчэ ж трэба дадаць публіцыстыку, якая таксама імкнецца адысці ад шаблону, больш востра, чым раней, уздымаць набалелыя пытанні жыцця. Усе звярнулі ўвагу на тое, што першы нумар «Полымя» адкрываўся публіцыстычнымі артыкуламі, трэці — таксама. Добрая нараджаецца традыцыя.

Канечне, справа не ў тым, на якой старонцы надрукаваны артыкул, а ў яго змесце. І ўсё-такі «першае» месца сведчыць аб тым, што рэдакцыя надае яму асаблівае значэнне. Таму, здаецца, і «Нёман» мог бы адкрывацца артыкулам В. Казько «По ком сегодня звонит колокол». Тое, што робіцца на Палессі, а правільней кажучы, з Палессем, не можа пакінуць раўнадушным. Чаго варты вось толькі гэты факт: мост зараз не над ракой будуюць, а раку... падводзяць да моста!

— Дзешавей абыходзіцца, — растлумачыў мне адзін з меліяратараў. — Мы цяпер заўсёды так робім.

А *што кіраўніцтва раёна*? А нічога. На іх век урадлівасці зямлі хопіць, каб адрапартаваць «наверх», як добра яны кіруюць. І таму падзяляеш не вельмі аптымістычныя вывады Казько аб тым, што «ператваральнікі» прыроды наўрад ці адумаюцца, наўрад іх пройме сумленне.

Адным словам, матэрыялу для роздуму і разважанняў хапае, і — *паўтаруся — не толькі* ў саюзных выданнях. Калі ўжо мы будзем лепш бачыць тое, што ёсць і робіцца ў сваёй хаце?

**Галіна АЙЗЕНШТАТ.**

г. Мінск

ваў. Да іх і павінны вяртацца навуковыя супрацоўнікі, каб уведаць неабходны матэрыял.

Выпускаючы з поля зроку важныя моманты (цэлыя перыяды!) у жыцці населеных пунктаў, мы збядняем іх гісторыю, выпустошваем яе, а каму патрэбна такая абкрадзеная гісторыя?..

Інстытуцкія супрацоўнікі з часоў працы над «Зборам помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» лічаць, што, як і раней, з прадстаўленых імі матэрыялаў у «БелСЭ» зробяць тое, што належыць. Але ж у выніку, як высветлілася, у фундаментальных тамах «Збору»... ёсць нямала пропускаў многіх значных і важных помнікаў з нашай гісторыі і культуры. Пра гэта сігналізуюць публікацыі ў друку, сярод іх — абгрунтавана гнеўны допіс Ніла Гілевіча «Як гэта зразумець?» («ЛіМ» ад 2 кастрычніка 1987 г.), у якім аўтар выказвае здзіўленне недасведчанасцю навукоўцаў, што працавалі над Лагойскім раёнам Мінскай вобласці. Такі «недагляд» — цалкам на сумленні супрацоўнікаў. І ці не шугануць такія «недагляды» на старонкі новага выдання?

Падсумоўваючы свой журботны роздум пра лёс «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі», хачу выказаць пару думак-прапаноў, ад вырашэння якіх (цвёрда перакананы!) залежыць творчы ўзровень будучых тамоў — стануць яны грунтоўнымі, вартымі свайго высокага прызначэння, ці папоўняць шэраг кніг на гістарычную тэматыку.

Перш за ўсё: чаму не перавесці аддзел гісторыі культуры Беларусі з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ў Інстытут гісторыі, зліўшы яго з той групай, што выконвае гэтую ж тэму? Адна Акадэмія навук, адно Аддзяленне грамадскіх навук — і ніяк нельга правесці такую складаную рэарганізацыю? Толькі таму, што яна (насуперак элементарнай логіцы і відавочнай карысці для справы!) непажадана для некага ў ІМЭФ? Ці не час акадэмічнаму кіраўніцтву, узважыўшы ўсё гэта, і «власть употребить»? Там, у Інстытуце гісторыі знайшоўся б і навуковы кіраўнік тэмы—галоўны рэдактар выдання, які спецыяльна займаўся б ім, цалкам прысвяціў бы сябе толькі яму. Цяперашні галоўны рэдактар С. В. Марцалеў у вельмі не простым становішчы. Ён — дырэктар інстытута, у якім, акрамя аддзела гісторыі культуры Беларусі, 8 іншых аддзелаў, што таксама патрабуюць кіраўніцтва; ён — галоўны рэдактар шасцітомнага выдання «Гісторыя беларускага тэатра» (у мінулым годзе выйшаў першы том, астатнія чакаюць працы ды працы); ён — рэдактар інфармацыйнага навукова-метадычнага бюлетэня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры — «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»; ён — член рэдкалегій некалькіх розных выданняў... Ці не зашмат для аднаго чалавека, нават самага нястомнага ў працы? Можа, таму галоўны рэдактар «Гісторыі»... і Магілёўскай, і Мінскай абласцей не змог ні разу выехаць у які-небудзь з раёнаў, каб наладзіць там так патрэбныя кантакты з мясцовымі ўладамі, арганізацыямі?..

...У студзеньскім нумары часопіса «Полымя» за гэты год надрукаваны ліст у рэдакцыю У. Бутрамеева са Слоніма — «Не паслабляць увагі». Даведаўшыся пра разгорнутую ў Акадэміі навук БССР працу над выданнем «Гісторыі населеных пунктаў Беларусі», малады літаратар заклапочана разважае над тым, якімі могуць і павінны быць тыя гісторыі хутароў, пасёлкаў, вёсак, гарадоў. З непрытоенай скрухай ён піша: «Больш за ўсё боязна, што праз нейкі час у кніжных магазінах з'явяцца шэсць тамоў, па ліку абласцей, дзе суха і коратка, у большасці выпадкаў без біяграфіі, будуць прыведзены і без гэтага выдання агульнавядомыя звесткі па вёсках: назва, колькасць кіламетраў да райцэнтра, колькасць магазінаў і паведамленне — васьмігадовая або дзесяцігадовая школа. І як выключэнне — дзе-нідзе кароткія звесткі з гісторыі».

Пра такое кажуць: нібы ў ваду глядзеў...

**ВІНШУЕМ!**



**Спаўняецца 75 год вядомаму літаратуразнаўцу і крытыку Фёдару Іванавічу КУЛЯШОВУ—нястомнаму прапагандысту і глыбокаму даследчыку беларускай літаратуры.**

**Сталася так, што ў 50-ыя гады Фёдар Іванавіч быў вымушаны пакінуць Беларусь і пераехаць ажно на Сахалін. Але ён не парываў сувязі з роднай зямлёю, цікавіўся літаратурным і культурным жыццём рэспублікі. З таго часу ў архіве вучонага засталіся лісты да яго ад Д. Палітыкі, В. Бурносава і Р. Бярозкіна, якія, на нашу думку, перадаюць атмасферу тагачаснага літаратурнага і грамадскага жыцця.**

# «Пішыце пра беларускую прозу...»

**(22 студзеня 1956 года)**

**Дарагі Фёдар Іванавіч!**

**Дзякую за прыпіску да пісьма Вольгі Пілінаўны і пажаданні. Пастараюся адказаць на пытанні, якія Вас цікавяць, і паведаміць навіны.**

**По частцы Вашай брашуры. Увесь наш *выдавецкі план* адвергнуты ЦК. З дапамогай членаў прэзідыума Таварыства ўдалося адстаяць адну брашуру пра К. Крапіву, прымеркаваную да яго шасцідзесяцігоддзя (7 сакавіка). Тэкст брашуры прапанаваў Вам вядомы А. А. Семяновіч. Рэдагуе П. Ф. Глебка. Зацверджана бюро да выдання ў лютым. Значыць, ні пра Лынькова, ні пра Астроўскага, ні пра сучасную замежную літаратуру, як было намі *запланавана*, выдаваць нічога не будзем.**

**Чуў, што Ваша работа пра Пестрака ўключаецца ў нейкі Акадэмічны зборнік. Пра гэта, відаць, Вам паведамілі работнікі Інстытута.**

**Пра білет. Калі я рабіў даведкі, ён не быў яшчэ атрыманы з Масквы. Спадзяюцца хутка атрымаць. Я прасачу і прыму патрэбныя захады для ўручэння яго Вам.**

**Навіны *літаратурнага* жыцця. У Мінск з далёкіх падарожжаў вяртаюцца многія з дзеячаў беларускай літаратуры. Вярнуўся Андрэй Александровіч, Мікола Хведаровіч, Язэп Пушча і іншыя. Прыняты да перавыдання раманы Цішкі Гартнага, Міхася Зарэцкага, Станоўча вырашаецца, кажуць, пытанне пра Чарота, П. Галавача і многіх іншых. Ужо цяпер называецца лічба — 15. Бачыце, працы *дабаўляецца*, а на нашым крытычным участку ажыўлення пакуль не відаць. Даручылі мне на папярэднім сходзе секцыі падвесці вынікі крытычнага года. Перачытваю Вас, у тым ліку і Вашы леташнія артыкулы**

**Здаецца, што Ваша адсутнасць заўважана ў пісьменніцкім асяроддзі. Неяк пры сустрэчы А. П. Бялевіч вельмі цёпла гаварыў пра Вас і шкадаваў, што Вы паехалі.**

**Пра сябе. У духу асветніцкіх малых спраў сёе-тое пішу, зарабляю ўпартай працай хлеб надзённы. Надумаўся на старасці заняцца славянскімі мовамі, наведваю гуртковыя заняткі па польскай мове ў Саюзе. Магчыма, здолею да лета закончыць «Купала-перакладчык», раздзелы «Шаўчэнка і Купала» і «Польская дэмакратычная паэзія ў перакладах Я. Купалы». Пра задумы *нашых вядомых* пісьменнікаў Вы, відаць, чыталі ў «Литературной газете».**

**В. Бурносаў і А. Ясанава перадаюць прывітанне і пажаданні вярнуцца хутчэй у Мінск.**

**Прывязіце «Чэхаўскі Сахалін» ці яшчэ што-небудзь у гэтым духу. З п'есай таксама можна вяртацца. Толькі не з доктарскай дысертацыяй: доктарскіх дысертацый і тут ужо хапае. Абараніў М. Ларчанка, В. Барысенка, яшчэ раней і ўжо зацверджаны, кажуць, С. Карабан, рыхтуецца да абароны Л. Фіглоўская. Ну, што яшчэ? Астатняе ўсё па-старому. Напішыце паболей пра сябе. Назапашвайцеся ўражаннямі і вяртайцеся дадому. Па-дружбацку Вас усіх абдымаю.**

**Д. ПАЛІТЫКА.**

(10 лістапада 1956 года).

Дарагі Фёдар Іванавіч!

Атрымалі Ваша вялікае святочнае пасланне, сардэчна дзякуем. Мы ад душы ўзрадаваліся Вашаму намеру «закончыць ціхаакіянскі паход». Няхай збудзецца!

Думаю, што Вы не будзеце вельмі здзіўлены, вярнуўшыся ў Мінск: абсалютна ніякіх зменаў, усё цячэ па-ранейшаму ў вызначаных яшчэ пры Вас берагах. І тэмп, і формы жыцця пакуль што нязменныя. Ідзе, па ўсёй верагоднасці, нябачнае ўнутранае якаснае і колькаснае назапашанне, але без скачкоў (дыялектычных).

Пастараюся расказаць па парадку пра ўсё, што для Вас *можа быць цікавым*.

У Інстытуце літаратуры чакаюць з 1 студзеня пашырэнне *штату*. Быў я ў Барысенкі, хацеў узяць паўстаўкі па сумяшчальніцтву, але мая прапанова іх не задавальняе: ім патрэбны чалавек на поўную стаўку.

На базе сектара мастацтва ствараецца Інстытут мастацтва, фальклору і этнаграфіі. Гавораць, што ёсць рашэнне ўраду, але практычнай арганізацыі яшчэ не пачыналі. Ішла чутка, што Ванька (Гутараў) узмоцнена дамагаецца дырэктарства, але яго не падтрымліваюць нібыта ў ЦК. Не ведаю, наколькі ўсё гэта праўда.

Ва універсітэце, наколькі я інфармаваны, Сторажаў не працуе. У абласным аддзяленні Таварыства ведаў мне сказалі, што ён паехаў у Казахстан.

Нядаўна ў «ЛіМе» Р. Бярозкін грунтоўна высцебаў С. Карабана. Узняўся шум. Ванька Гутараў і С. Карабан, кажуць, сачынілі адказ на гэты артыкул, дамагаюцца, каб яго апублікавалі.

Ваш артыкул у «Полымі» чытаў. Гаворка па сутнасці. Што датычыць мерапрыемства, прымеркаванага да 40-годдзя Кастрычніка, то яго ўзначальвае В. Івашын і Я. Шарахоўскі. На апошнім пасяджэнні камісіі па крытыцы ішла гаворка пра зборнік. Склалі спіс удзельнікаў. Калі Вы пажадаеце ўключыцца, напішыце, я пайду да Шарахоўскага і перадам Вашы планы і намеры. Я, прызнацца, слаба веру ў поспех пачынання. Таму што будуецца яно на пяску. Тэмы пастаўлены сур'ёзныя: праблемы рамана, лірыка, апавяданні, пытанні крытыкі, якія патрабуюць працяглай працы, а грашовай падтрымкі аўтарам не абяцаюць.

Рабіў я неаднаразова даведкі пра Ваш членскі білет у Саюзе пісьменнікаў. Мне сказалі, што чакаецца абмен усіх білетаў і таму не выпісваюць новых. У сярэдзіне наступнага месяца мяркуецца нарада пачынаючых празаікаў, а ў канцы месяца абмеркаванне часопісаў за год. Што ж яшчэ?

Пра сябе? Я, здаецца, пісаў Вам, што адбылася рэарганізацыя школы. У гэтай сувязі літаратура і мовы адсунуты на задворкі вучэбнага плана. У мяне ледзь-ледзь нашкраблося на нагрузку, па волі лёсу ледзь не стаў вольным літаратарам. Курс беларускай літаратуры не чытаецца, Барсток пайшла ў Інстытут таварыша Сонцава, Вашага падшэфнага. Ёй пашанцавала. Атрымала акрамя ўсяго прапанову перавыдаць у «Советском писателе» кнігу пра Я. Коласа. Нават выслалі грашовы аванс. У наступным годзе змагу аказаць без працы. Гэта перспектыва мала заманлівая.

Соф'я Міхайлаўна — у школе. У яе поўная нагрузка. Дзеці здаровыя. Эдзік пайшоў у першы клас. Сярожка падрос і стаў зусім добра гаварыць.

Лета праседзелі ў Каралішчавічах. Па ўсёй верагоднасці, зімой таксама паеду туды на месяц. Пішу мала, больш заняты вучэбнымі справамі, хачу да мая выканаць вучэбную нагрузку (540 гадзін) і два-тры месяцы шчыльней папрацаваць над рускай тэмай. Думаю, што да Вашага прыезду буду вольны ад вучэбных спраў зусім, з'езджу на некалькі дзён у Ленінград, а на лета заканапачуся ў Каралішчавічы. Чакаю Вашых пісем, даручэнняў. Усе мае шлюць найлепшыя пажаданні. Да хуткай сустрэчы!

Ваш **Д. ПАЛІТЫКА.**

(10 мая 1956 года)

Добры дзень, паважаны Фёдар Іванавіч і Вольга Піліпаўна!

Ваша пісьмо з другога краю зямлі атрымалі сапраўды пасля першамайскіх святаў. Пісьмо цікавае, а дзеці нават за канверт, дзе значыцца «Прывітанне з Сахаліна!», учынілі баталію.

Вельмі задаволены, што ты, Фёдар Іванавіч, такі аптымістычны, бадзёры і поўны творчых пошукаў. Артыкул «Вобраз народа ў творчасці Лынькова» (а можа, назваць яго інача?) дасылай. Але ў нас ужо цалкам заняты 7 і 8 нумары. Значыць, пусцім у 9.

Навін у нас асаблівых няма. Ды відаць, што ты сам сочыш за падзеямі літаратурнага характару.

Ты пішаш, што ў вас на Сахаліне прадуктаў і прамтавараў хапае. Мяне нават зайздрасць адолела. Калі б можна было злётаць у адно імгненне, то я б неадкладна гэта зрабіў, каб купіць сабе туфлі ці чаравікі, а то хоць у *лапцях хадзі*. Так, тут кепска, як ніколі, і з прадуктамі, і з прамтаварамі. А яблыкаў зусім няма, толькі што на Камароўскім базары па 25—30 р. за кілаграм.

Твая ідэя — праехацца па чэхаўскіх мясцінах — цікавая. Напішаш добры нарыс аркушаў на 4 ці 5.

Прывітанне ўсім хлопцам перадаў, яны ўзаемна кланяюцца. У мяне асабіста ўсё па-старому. Заела цякучка, што ні кажы, а работа ў маім аддзеле вельмі канцылярская...

У мяне расцвітаюць цюльпаны. Нарцысы ўжо расцвілі. Калі б быў тут — атрымаў бы для Вольгі Пілінаўны цудоўны букет.

Пішы мне, буду адказваць без затрымкі.

**В. БУРНОСАЎ.**

(Атрымана: 23 красавіка 1960 года)

Дарагі Фёдар Іванавіч!

За кнігі пра Чэхава і за пісьмо — вельмі сяброўскае і цёплае — вялікае дзякуй. Рады, што Вы пакідаеце Сахалін і прыязджаеце ў Мінск. Час ужо брацца за сапраўдную справу. Пішыце кнігу пра беларускую прозу. Яна ж у Вас, здаецца, ужо *напісана*? Застаецца толькі скласці, адрэдагаваць.

Што пісаць пра сябе? Кніжка ў Маскве выйшла, хоць сам я яе яшчэ не бачыў — днямі вышлюць. Пішу новую кнігу для нашага выдавецтва: запланавана на 61-ы год. Зноў пра паэтаў. Сёе-тое з яе ўжо друкаваў (Лужанін). У пятым нумары «Полымя» ідзе артыкул пра Бялевіча, у шостым — пра Кірэенку, а далей—пра Вялюгіна. Другі, так сказаць, эшалон беларускай паэзіі. Пісаць было не гэтак цікава, як пра Куляшова ці Панчанку, але трэба...

Б. І. Бур'ян зараз у Ялце. Мы ўжо не «Советская Отчизна», а «Нёман». Часопіс, здаецца мне, стаў лепшым. Хоць бы знешне.

Гарачае прывітанне Вользе Пілінаўне і Наташы, якая «цуд».

З найлепшымі пажаданнямі!

**Р. БЯРОЗКІН.**

## ПАЭЗІЯ

Юрась СВІРКА



# З НОВАЙ КНІГІ

### Мяне заўсёды вабіла сюды

Мяне заўсёды вабіла сюды,
У гэты край лясны і камяністы,
Дзе доўга нараджаліся сады,
Дзе сосны скрозь
І менш бяроз махрыстых,

Мяне заўсёды клікалі лясы,
Рака Бяроза чысцінёй вытоку.
Такой нідзе не бачыў я красы,
Хоць і ад дому ад'язджаў далёка.

Мяне заўсёды суцяшаў спакой
Вясковага ляснога адвячорка,
І той туман-дымок па-над ракой,
Што не бывае на радзіме горкім.

Мне і сягоння бы даносіць слых
І крокі маці, і як скрыпнуць дзверы,
І тыя словы, век не забудзеш іх:
«Ідзі, сынок, дамоў, пара вячэраць»...

Мяне заўсёды захапляла тут
Гаворка землякоў маіх і жыта,
І песня «У чыстым полі пад ракітай»...
О блаславенны, незаменны кут,
Што партызанскай славай знакаміты.

Мой край, навекі ў сэрцы ты маім
Часцінкай нескаронай Беларусі.
І як прызнаўся мілады Максім,
Зямлёй зрабіцца тут — я не баюся.

●

Пра лёс свой — балючае і дарагое, —
Якое ніяк немагчыма забыць,
Народ мой адкрыта гаворыць пра тое,
Што ўчора балела,
Што сёння баліць.

Пра чалавечнасць і чалавека,
Пра годнасць яго,
Пра зняваргу і лёс.
Пра годы застою, знішчэння і здзеку,
Што столькі прынеслі і болю і слёз.

Народ асуджае зазнайства і жорсткасць,
Каб думаць смялей
І каб дыхаць лягчэй.
Народ мой, ты вымаўчаў гэту галоснасць.
Галоснасць гаворыць сумленнем людзей.

### Так думае мая сястра

Гляджу зайздросна я на вас:
Вы — прыгажуні, каралеўны.
А мой жа шчаслівейшы час
Ужо далёка — даваенны.

І я ўсё думала аб тым,
Пра вас, дзяўчаты маладыя,
Што я у вашыя гады,
Была ўжо жонкай, гаспадыняй.

Муж-партызан любіў мяне
Так, як ніхто на гэтым свеце...
Сын і дачушка па вясне
Асірацелі ў сорак трэцім.

Вы не пытайцеся, чаму
Адмовілася ад пяшчоты.
Была я верная яму,
Рабіла ўсю яго работу.

Пакрыўдзіла я жаніхоў:
Каханню здрадзіць я не ўмела,
І ў дваццаць пяць сваіх гадкоў,
Нібы старая, пасівела.

Як жыць вам? — цяжка павучаць.
Шкада, не буду маладою.
Вам не жадаю ў дваццаць пяць
Застацца вернай удавою.

### Нерушная і мілагучная

Вёска Заельнік, за Ясенем,
Што пад Бабруйскам.
Слухаю,
Дзядок успамінае пра наша наступленне.
Лад мовы наскі,
Такі беларускі,
Не патрэбны яму ніякія тлумачэнні —
Адно захапленне!

Мова чаруе,
Нібыта крынічка ў спёку радуе.
Называюць такую —
Нерушнай і мілагучнай:
Не агучана і не аслеплена на тэлерадыё
І не прылізана стылістыкай-недавучкай.

### Амаль калыханка

Выскачыла замуж.
А прасіла ж маці:
«Пажывi ты з намі
У бацькоўскай хаце.

І куды спяшацца:
Твой жаніх нязлоўны»...
Ёй было семнаццаць
Ды і тых няпоўных.

Рукі аж самлелі
У маладзенькай мамы.
Песні крошцы пела,
Толькі знае мала.

«Люлі, люлі, люлі» —
Ды не спіць малая.
І ўзяла бабуля,
На руках гушкае.

Нібы падмянілі
Не пазнаць дзіцятка.
Бабка панасіла,
Пагушкала мякка.

І не тармасіла,
Да сябе хінула,
«Спі-засні», — прасіла.
І дзіця заснула...

Спіць каток на лапках,
Спяць у лесе птушкі.
Залюляла бабка
Мамку і дачушку.

●

Калі чалавек адплывае
Ад берага мора, возера ці ракі,
Ад яго застаецца грудок адзення.
І здалёку здаецца ён
Кропкай маленькай.

Калі чалавек адплывае
Ад берага пад назвай жыццё,
Ад яго застаецца добрая памяць
(Калі ён заслужыў),
А на пагосце грудок,
Альбо попелу жменька.

### Векавыя

Па дзвесце ім. Магчыма, болей.
Я маладзейшы сярод іх.
На лёс не скардзяцца ніколі,
Калі стаю ля векавых.

А у мяне адно жаданне:
Пілу на іх не падымаць.

---

## ПРОЗА

Сяргей Тарасаў





# Званок

*Апавяданне*

Рака віравала. Вада змывала і круціла агромністыя бярвенні, слупы, дошкі і несла ўсё гэта ў адзінай, нястрымнай плыні. То тут, то там на паверхню ўсплывалі разлезлыя карчы і зноў знікалі ў бездані. Сцерліся межы. Тое, што некалі было на ўзбярэжжы, апынулася ў сярэдзіне вадзянога віру. Цагляныя прыступкі з металічнымі парэнчамі вялі ў самую каламуць.

Чалавек бездапаможна боўтаўся на чорных хвалях, хапаючыся то за адно, то за другое бервяно. Але тыя круціліся, выслізгвалі з рук. Яго выносіла на страму, усё далей і далей ад берага... Невыносна халодная вада сціскала цела, сутаргі зводзілі ногі. Цяжкая мокрая вопратка цягнула на дно. З кожнай хвілінай яму ўсё цяжэй было ўсплываць на паверхню, каб ухапіць хоць глыток паветра. Чалавек учапіўся за вялізны корч, што плыў побач, з апошніх сіл ускараскаўся на яго і страціў прытомнасць.

А калі апрытомнеў, зразумеў, што ўратаваўся. Скурчаныя пальцы ўпіліся ў мокры, з дробным каменнем пясок. Расплюшчыў вочы. Зырка свяціла вясновае сонца, нават крыху прыпякала. Ярка-белыя, з блакітным адлівам воблакі павольна пагойдваліся ў паветраных сутоках.

Ён зрабіў намаганне сесці, але ніводная цягліца не зварухнулася. Гэта здзівіла. Было нечакана і ўпершыню. Цяжар наваліўся на павекі. Чалавек заплюшчыў вочы і зноў абрынуўся ў чорную бездань.

Калі дайшоў да памяці, сонца стаяла даволі высока. Варухнуў рукою — цела слухалася. Ён сеў, азірнуўся. Але думка аб шчаслівым выратаванні знікла. Ён сядзеў пасярод ракі на невялікай выспе. Памеры гэтага, вартага жалю, шматка зямлі былі не большыя за дзесяць — дваццаць метраў. Абодва берагі ракі так аддаліліся, што ледзь віднеліся тонкімі чорнымі стужкамі. Наўкола па-ранейшаму неслася паводкавая плынь, зрэдку чапляючыся за бераг выспы.

На гладкай пясчанай паверхні вострава — ні расліны. Толькі, як здзек, пасярод ўздымалася тэлефонная будка. Самая звычайная, брудна-апельсінавага колеру.

Каб адагнаць прывід, Чалавек на імгненне зажмурыў вочы. Не памагло. Ён ушчыкнуў сябе за руку. Нішто не змянілася. Апельсінавы паралелепіпед па-ранейшаму стаяў на месцы. Будка нічым не адрознівалася ад тых, што стаяць на гарадскіх вуліцах. Незвычайным было толькі яе месца.

Намагаючыся з усіх сіл, дапоўз да тэлефона. Яму здавалася, што варта да яго дакрануцца, як ён знікне, рассыплецца. І тады стане зразумела: гэта — звычайны прывід, міраж.

Але рука адчула холад металу. Нічога не змянілася. Будка была сапраўднай, як і сапраўдны тэлефон-аўтамат. Праўда, ён быў міжгародні, з клавішам націску для адказу. На дзвярах не было дзвюх шыбін, адна разбіта наўскасяк. Фарба месцамі аблезла, месцамі была пашкрабана шматлікімі надпісамі і тэлефонамі: «Галя 5-17-82», «Мікола — дурань», «Хэві метал» і нават «Не забуду мать родную» і іншай пісьмовай атрыбутыкай тэлефонных будак.

Чалавек зняў трубку. У гэтай бязлюднай цішы гудок здаўся выбухам царкоўнага звону. Яго скаланула. Не ведаючы чаму, імгненна павесіў трубку. Зноў азірнуўся. «Можна званіць, — маланкава пранеслася ў галаве.— Але каму? Куды? Што казаць? Дзе я А раптам усё навокал мяне не існуе?»

Збянтэжаны позірк спыніўся на шыльдзе, якая была прымацавана побач з тэлефонам. Механічна пачаў чытаць: «Правілы і заўвагі карыстання тэлефонам-аўтаматам МІЖЧАСОВАЙ сувязі:

1. Тэлефон-аўтамат міжчасовай сувязі забяспечвае трывалую, якасную размову абанентаў у трох часовых вымярэннях: мінулым, сучасным і будучым — у адпаведнасці з пажаданнем кліента.

2. Сувязь аплачваецца з разліку (незалежна ад накірунку): адна хвіліна рамовы — тры гады матэрыяльнага існавання абанента-заказчыка.

3. Парадак набору нумара: 5508, доўгі гудок, нумар года, які выклікаецца, гудок, прозвішча патрэбнага абанента. Пры адказе націснуць клавіш — «Адказ».

ЗАЎВАГІ:

а) Нумар года, які выклікаецца, адпавядае лічбавым знакам года пасля або да Н. Э. Пры наборы года да нашага часу абавязкова папярэдне набраць тры нулі (0-0-0).

б) Прозвішча, імя або пасада патрэбнага абанента набіраюцца літарамі любога алфавіту, якія суадносяцца з лічбамі дыска па парадку (напрыклад, А-1, Б-2, Т-001, Я-0003).

в) Пры сувязі з сучаснасцю дазваляецца набраць нумар хатняга або рабочага тэлефона абанента.

г) Даведка аб рэшце матэрыяльнага існавання абанента-заказчыка даецца бясплатна па тэлефоне «07» з націскам клавіша «Адказ».

ПАМЯТАЙЦЕ! Пры недакладных разліках па пунктах правіл і заўваг размова можа быць датэрмінова спынена з нагоды вычарпанага ліміту матэрыяльнага існавання абанента-заказчыка. Бліжэйшы тэлефон-аўтамат за 3 км. ніжэй па рацэ.

Прыемных і карысных вам размоў!»

Прачытаўшы некалькі разоў «Правілы і заўвагі», Чалавек, нарэшце, уцяміў, езуіцкі сэнс гэтых пісьмёнаў. Выратаванне трэба сплачваць тэрмінам уласнага жыцця, дакладней, рэштай таго, што засталося. Трэба падумаць...

Каму званіць і навошта? Ці варта ўвогуле карыстацца гэтым тэлефонам? Ён жа, зрэшты, не на іншай планеце, а вось тут, на знаёмай з маленства зямлі. Яго пачнуць шукаць — калі ўжо не шукаюць — і калі-небудзь знойдуць. «Калі-небудзь»,— горка падумаў ён. Гэтае «калі-небудзь» можа адбыцца і тады, калі ён, як жывая істота, памрэ ад голаду і холаду. Не, гэтае «калі-небудзь» не падыходзіць.

І ўсё ж ён мог скарыстаць гэты тэлефон бясплатна: даведацца, колькі яму яшчэ наканавана жыць.

Спыніўшыся на гэтай думцы і ўзважыўшы, што нічога не губляе, Чалавек набраў нумар «07». Бяздушны металічны голас адказаў: «Трыццаць год».

Яму было сорак. Значыцца — да сямідзесяці. Але чаму менавіта трыццаць? Можа, памылка? Ён яшчэ раз набраў «07». Металічны голас зноў паўтарыў: «Трыццаць год».

«Так,— падумаў ён,— не многа і не мала».

Чалавек выйшаў з будкі і сеў на пясок, прытуліўшыся спіною да халоднага жалеза. Пальцам вывеў на пяску нескладаную матэматычную формулу: «30:3=10». Так, на астачу сваіх год ён мог гаварыць роўна дзесяць хвілін. Трыццаць год — у нейкія імгненныя дзесяць хвілін. Смех і жах! Умовы, падобныя на фантасмагарычны жудасны жарт.

Тэлефанаваць ці не? Адразу прыгадаўся Гамлет з яго сакраментальным пытаннем. «Як мала што змянілася з

хам, і творчы абмен з іншымі тэатрамі. А ўсё — нават рабочыя рэпетыцыі—з-за адсутнасці прыстойных умоў для працы, даводзіцца рабіць вечарамі ці нават начамі. Быццам бы акцёры — не звычайныя людзі... Да пытання працы на беларускай мове С. Юркевіч звярнуўся асобна. Ніхто, як дзіцячыя тэатры, на ягоную думку, не здольныя лепш распачаць далікатную і складаную працу па адраджэнні беларускай мовы і культуры. Часцяком ад рэжысёраў можна пачуць, што па-беларуску няма чаго ставіць, але вельмі лёгка пераканацца ў тым, што такія рэжысёры папросту нічога не чытаюць, дый мовай не валодаюць. Ёсць магутны пласт беларускай класікі, якую можна і трэба пераносіць на сцэны тэатраў, але ж яе практычна ведае выбраная жменька зацікаўленых асоб, якія, на жаль, рэжысёрамі не працуюць, дый, можа, рэжысёрскіх здольнасцей не маюць. «Я, — падкрэсліў прамоўца, — за тое, каб новыя тэатры, што маюць адкрыцца, працавалі толькі па-беларуску. Што да нашага тэатра, дык ён будзе працаваць па-беларуску ў першую чаргу».

**У. Рылатка,** начальнік Упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР, зважыў на комплекснасць праблемы мастацкай адукацыі дзяцей. Асноўную частку свайго выступлення прамоўца прысвяціў таму, што ў практыцы мала спектакляў на беларускай мове. Нават у Дзяржаўным тэатры лялек пракат усяго двух спектакляў склаў шэсць працэнтаў на год ад агульнага. Ёсць, зазначыў ён, адна важкая, небяспека: ці не зробіцца стварэнне спектакляў па-беларуску простаю данінай сённяшняй сітуацыі ў рэспубліцы? Адна хваля прынесла, другая хваля — знясе... Ці дапушчальна з пункту гледжання паўнацэннай культуры сцэнічнай мовы арганічнае існаванне трупы на дзвюх мовах? Самае правільнае рашэнне прынясе практыка, але на думку Міністэрства культуры самы рэальны шлях паўнацэннага двухмоўя — гэта стварэнне беларускамоўных труп. Другое — перавод навучання ў БДТМІ на беларускую мову.

**В. Вольскі** запярэчыў У. Рылатку і сказаў пра тое, што тэрмін «двухмоўе» прыдуманы дзеля таго, каб прыкрыць тую благую сітуацыю, якая зараз вызначае нашу моўную практыку. Ён лічыць, што стварэнне дзвюх труп у тэатры было б вялікаю памылкаю: усе тэатры без выключэння павінны працаваць па-беларуску (хоць бы й таму, што больш за 80 працэнтаў насельніцтва рэспублікі — беларусы).

**У спрэчках таксама ўзялі ўдзел А. ЖУК, акцёр ТЮГа; Р. МАЛЕНЧАНКА, актрыса ТЮГа; А. ЖУГЖДА, рэжысёр Магілёўскага тэатра лялек; Г. БАРЫШАЎ, выкладчык Інстытута культуры, кандыдат мастацтвазнаўства. На заканчэнне слова ўзяў галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек А. ЛЯЛЯЎСКІ, які ўдакладніў, што ёсць лялечныя тэатры, і ёсць спектаклі ў гэтых тэатрах, якія іграюцца для дзяцей. На думку Ляляўскага сённяшняя сітуацыя тэатраў лялек была справакавана няправільным фінансаваннем іх дзейнасці: павінна існаваць кампенсацыя за нізкі кошт білетаў на дзіцячыя спектаклі. Гэта было б справядліва і ўсе эксперыментуючыя тэатры паставіла б у роўныя ўмовы. У сваім выступленні А. Ляляўскі падкрэсліў, што перш як адкрываць новыя тэатры, трэба старыя давесці да прыстойнага стану. Немагчыма сёння працаваць з самым маленькім гледачом, калі не даць яму магчымасць натуральна размаўляць на роднай мове. Але як данесці да яго гэтае роднае слова са сцэны? Залы, у якіх адбываюцца спектаклі, ніякімі словамі не апішаш: ні працаваць, ні ўспрымаць спектакль у іх немагчыма.**

**У рабоце пленума ўзяў удзел і выступіў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Я. К. Вайтовіч.**

**Ж. ЛАШКЕВІЧ.**

# МУЗЫКА

# ВЫНІКІ — І НАДЗЕІ

## Адбыўся І Рэспубліканскі конкурс вакалістаў імя Л. П. АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ

**Толькі двое з дваццаці трох яго ўдзельнікаў дагэтуль выступалі ў конкурсах. Так атрымалася, што студэнты-дыпломнікі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Ірэна Журко і Марк Гулегін летась у кастрычніку ўдзельнічалі ва Усесаюзным конкурсе вакалістаў імя М. Глінкі. Менавіта яны і сталі пераможцамі І Рэспубліканскага конкурсу імя Л. П. Александроўскай. Заўважу, што І. Журко і М. Гулегін — стажоры ДАВТа БССР, маюць практыку выступленняў у оперных спектаклях. Абодва маюць добрыя галасы — сапрана і барытон, музычнасць і ў будучым могуць з поспехам прадстаўляць нашу рэспубліку на конкурсах самых высокіх узроўняў.**

**Наогул, усе пераможцы конкурсу маладыя і яшчэ толькі выходзяць на шлях прафесійнага мастацтва. Таму, зразумела, для нашых чытачоў іх імёны пакуль яшчэ невядомыя. Але перамога на конкурсе імя Л. П. Александроўскай — нагода для знаёмства. Дыпломамі лаўрэатаў другой ступені ўзнагароджаны салістка Белдзяржфілармоніі Алена Шведава (каларатурнае сапрана) і саліст ДАВТа БССР Іван Ланюк (барытон). Галоўная вартасць гэтых спевакоў — не галасы, а майстэрства валодання імі, глыбіня пранікнення ў сутнасць выконваемых твораў. (Зазначу між іншым, што ўсе лаўрэаты — выхаванцы БДК, апроч І. Ланюка, які скончыў Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю).**

**Дыпломамі лаўрэатаў трэцяй ступені адзначаны адразу тры выканаўцы, што сведчыць пра даволі высокі прафесійны ўзровень конкурсу. Пра гэта гаварылі, дарэчы, члены журы — народная артыстка СССР прафесар Т. Ніжнікава, пастаянны член журы рэспубліканскіх конкурсаў на працягу 20 апошніх гадоў, і заслужаная артыстка БССР лаурэат міжнароднага і ўсесаюзнага конкурсаў Л. Колас, якая была членам журы ўпершыню. Пра гэта гаварылі і слухачы — колішнія ўдзельнікі і пераможцы рэспубліканскіх конкурсаў заслужаныя артысты БССР В. Скорабагатаў і І. Краснадубскі і іншыя. Трэцяе месца занялі студэнты БДК Ірына Дзмітровіч (сапрана) і Аляксандр Тузлукоў (тэнар), а таксама саліст Гомельскай абласной філармоніі Мікалай Жылін (тэнар). Ва ўсіх траіх адкрыліся неблагія творчыя перспектывы: М. Жылін у будучым сезоне пачне працу ў ДАВТе БССР у якасці стажора, а І. Дзмітровіч і А. Тузлукова «заўважыла» кіраўніцтва ДАВТа БССР, і яны таксама спадзяюцца неўзабаве працаваць стажорамі тэатра.**

**Дыпломам адзначана студэнтка ІІ курса БДК Ірына Гардзей (сапрана). На думку члена журы заслужанай артысткі БССР лаўрэата міжнародных конкурсаў М. Гулегінай, яна паказала на конкурсе найпрыгажэйшы голас. Але пакуль што І. Гардзей бракуе майстэрства валодання ім.**

**Граматамі журы адзначыла салістку Акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы Наталлю Бандарэнка (мецца-сапрана) і саліста Гомельскай філармоніі Сяргея Кандрацюка (бас), а таксама канцэртмайстраў: А. Аляксееву, М. Сярдобава, В. Сідарава, Л. Коркіну, А. Васільчанка. Поспех лаўрэатаў падзялілі іхнія настаўнікі — педагогі кафедры спеваў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

**Якія недахопы высветліў конкурс? Не вельмі шырокім было на ім прадстаўніцтва музычных тэатраў і канцэртных арганізацый. Больш чым палова канкурсантаў — студэнты кансерваторыі. Толькі адзін саліст ДАВТа ўдзельнічаў у конкурсе, ніводнага прадстаўніка не было ад Брэсцкай філармоніі, якая, праўда, яшчэ ў стадыі станаўлення. Не было сярод спаборнікаў і ніводнага саліста Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР (былі зноў жа студэнты кансерваторыі — стажоры тэатра). Музычная камедыя — мастацтва маладых. Дык дзе ж яны, маладыя вакалісты тэатра?**

**Сярод пераможцаў не аказалася ніводнага мецца-сапрана і баса. Гэта трывожны факт, бо ў ДАВТе БССР ужо не хапае вядучых салістаў у гэтых катэгорыях галасоў. Зрэшты, сярод студэнтаў кансерваторыі мецца-сапрана і басы цяпер у вялікім дэфіцыце і ў бліжэйшыя два гады адкрыццяў тут не будзе.**

**Можна выказаць папрок на адрас сродкаў масавай інфармацыі. На першую прэс-канферэнцыю, прысвечаную конкурсу, былі запрошаны прадстаўнікі ўсіх рэспубліканскіх газет, рэдактары радыё і тэлебачання. Адгукнуліся на запрашэнне карэспандэнты газет «Советская культура», «Мінская праўда» і «Знамя юности». Але і яны ў далейшым не змясцілі ніводнага матэрыялу пра конкурс. Ніводнага! Што гэта за абыякавасць да такой падзеі ў музычным жыцці рэспублікі, якой стаўся І Рэспубліканскі конкурс імя Л. П. Александроўскай? Прафесійны ўзровень гэтага конкурсу высокі, а аўтарытэт... Хто, акрамя прафесіяналаў, нешта ведае пра гэты конкурс? Даволі часта на розных узроўнях ганяць нашых вакалістаў: маўляў, няма на Беларусі спевакоў, няма ў кансерваторыі выкладчыкаў... Вось там, у іншых... Дык ці не лепей было б наведацца на конкурс? Паслухаць з добрым сэрцам і парадавацца, калі з'яўляюцца маладыя спевакі, а не карыстацца старымі чуткамі. Добрыя адносіны і давер акрыляюць артыстаў і іх настаўнікаў, натхняюць іх на плённую працу.**

**Пераможцы І Рэспубліканскага конкурсу імя Л. П. Александроўскай — наша надзея. Надзея на тое, што сваім далейшым творчым жыццём яны абавязкова апраўдаюць званне спевакоў, артыстаў.**

**Леанід ІВАШКОЎ.**

**...рымліваюць ніякіх ганарараў за фактычнае выкарыстанне сваіх твораў, што з'яўляецца бясспрэчным парушэннем аўтарскага права). Варта падумаць і пра тое, каб прывесці ў пэўную сістэму гэтыя экспазіцыі, таму што пакуль работа ідзе стыхійна.**

**Варта сказаць хоць бы некалькі слоў яшчэ пра адну выстаўку Тыдня — экспазіцыю работ самадзейнага мастака з Рэчыцы А. Ісачова. Вядома, гледачоў вабіць незвычайная ілюзорнасць дэталяў, пышная маляўнічасць атрыбутыкі, гладкасць пісьма. Але ж асабіста я схільны думаць, што прычына поспеху выстаўкі тлумачыцца не толькі гэтым і галоўным чынам — не гэтым. У адной з нядаўніх перадач праграмы «Погляд» драматург Э. Радзінскі выказаў думку, што сённяшняму мастацтву патрэбна тайна. Адзін з парадоксаў нашага прафесійнага мастацтва сёння ў тым, што многія гады яно заклікала раскрыць нязведанае, «праверыць алгебрай гармонію». Ісачоў жа (пры ўсім дылетантызме манеры пісьма, чалавек, без сумнення, не пазбаўлены таленту) інтуітыўна адчуў патрэбу гледача ў тайне.**

**16 красавіка група гасцей пабывала ў мемарыяльнай майстэрні народнага мастака БССР А. Бембеля, у доме якога мяркуецца стварыць музей беларускай савецкай скульптуры. Потым было наведанне тэатральна-мастацкага інстытута, Мінскага мастацкага вучылішча імя А. Глебава, Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка, знаёмства з мазаікамі ў мікрараёне «Усход-1». Наступны дзень — Свята выяўленчага мастацтва ў Мінску — пачаўся сімвалічным адкрыццём рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей, на тэрыторыі якога госці і гаспадары пасадзілі дрэўца. Гэта нагода закрануць тэму эстэтычнага выхавання ўвогуле.**

**Нядаўна мне давялося пабываць у студыі ЖЭС-61 па вул. Чарнышэўскага. У малюсенькім пакойчыку пад кіраўніцтвам мастака Паўла Бондара старанна працавалі над малюнкамі шасцёра дзяцей. Мамы прывялі яшчэ дваіх, але іх ужо не было куды пасадзіць. Колькі мастакоў, маладых, аддадзеных справе, мастацтву растрачваюць энергію па цесных кутках без кватэр, без майстэрань, часта бясплатна? Колькі юных талентаў пры мізэрнай колькасці мастацкіх студый пазбаўлены магчымасці своечасова раскрыць свае здольнасці! Трэба, каб арганізацыю сістэмы дзіцячых студый пры домакіраўніцтвах узяло на сябе маладзёжнае аб'яднанне Саюза мастакоў. Але гэта я запісваю ўжо для сябе, як кансультанта па рабоце з маладымі...**

**Цэнтрам Свята выяўленчага мастацтва быў сквер імя Янкі Купалы. Мастакі ўсіх узростаў і катэгорый (ад членаў саюза ўсіх секцый да вучняў школ) разгарнулі там выстаўку. Вялікую частку твораў можна было купіць. Праўда, на гэтым свяце куплялі мала. Чаму? Цяжка адказаць. А дынаміку густаў ніхто не вывучае...**

**На другім беразе Свіслачы, у парку імя Горкага, адбыўся конкурс дзіцячага малюнка на асфальце.**

**Для гасцей свята закончылася наведаннем майстэрань мастакоў.**

**Назаўтра пасля паездкі на Барысаўскі камбінат дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўдзельнікі Тыдня былі запрошаны ў ЦК КПБ, адбылася гутарка аб праблемах развіцця выяўленчага мастацтва рэспублікі. Па водгуках удзельнікаў гутарка была шчырая і плённая.**

**Падводзячы вынікі Тыдня на партыйным сходзе, старшыня праўлення СМ БССР У. Стальмашонак адзначыў, што гэта была вельмі карысная падрыхтоўка да справаздачнага пленума праўлення, які адбудзецца неўзабаве.**

**А. ДАБРАВОЛЬСКІ.**

# Ёсць магчымасці для сур'ёзнай працы

## Акадэмічная харавая капэла БССР імя Р. ШЫРМЫ сёння

**Крыху больш чым год Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы працуе з новым галоўным дырыжорам. Калектыў меў некалькі выступленняў на сцэне філармоніі, якія прыхільна сустрэла мінская публіка. Выконваўся новы адметны рэпертуар: «Рэквіем» Р. Шумана, «Літургія» С. Рахманінава, «Патэтычная араторыя» Г. Свірыдава...**

**Галоўны дырыжор капэлы Л. Яфімава адказвае на пытанні нашага няштатнага карэспандэнта.**

**— Людміла Барысаўна, мінуў год, як вы ўзначалілі капэлу. Што зроблена за гэты год?**

— Перш за ўсё, мы цалкам абнавілі праграму, у якой многія творы прагучалі ўпершыню.

Калектыў быў, як вядома, у заняпадзе. І гэта нягледзячы на тое, што патэнцыяльныя магчымасці для сапраўднай прафесійнай працы ў кожнага члена калектыву ёсць. Калі я прыйшла сюды галоўным дырыжорам і пачала працаваць, дык ніяк не магла зразумець, чаму тэнары не гучаць, сапрана не гучаць. Аказалася, у тэнараў была выпрацавана шкодная манера спявання фальцэтам. Зрэдчас так спяваць можна, але як манера спявання фальцэт робіць страшэнную шкоду і самому спеваку, і, зразумела, выкананню твора. Нешта падобнае было і ў сапрана: спявачкі не ведалі, што ім належыць рабіць з уласным голасам у другой актаве. Таму надта стамляліся і неверагодна фальшывілі. Месяцаў 5—6 давялося аддаць на тое, каб пазбавіцца гэткай манеры спявання. Цяпер, калі вы заўважылі, капэла цудоўна трымае лад.

**— Многае залежыць і ад рэпертуару...**

—Рэпертуар капэлы складаўся з твораў хрэстаматыйнага плана, якія вывучаліся ў музычных вучылішчах гадоў 30 назад. А прафесійны ж калектыў практычна павінен валодаць усёй сусветнай харавой літаратурай. Рэпертуар сапраўды вызначае многае: і аблічча калектыву, і яго прафесійны ўзровень, і поспех у гледачоў... Я пераканана, што ў рэпертуары мае быць усё: ад складаных твораў буйной формы да самай простай песні, ад старадаўняй музыкі да навінак сучасных аўтараў.

**— Што вы можаце сказаць пра псіхалагічны клімат у калектыве? Я чуў, што шырмаўская капэла мае даволі «наравісты характар».**

— Мяне папярэдзілі, што я іду ў цяжкі калектыў, што народ тут цяжкі і да т. п. Але, ведаеце, за год працы я нічога такога не адчула. Наадварот, у капэле культурныя, сур'ёзныя людзі, з усімі прыемна не толькі працаваць, але і пагутарыць у пазарабочы час. Цяжка паверыць, што гэтыя людзі маглі быць іншымі.

**— Завітаўшы да вас на рэпетыцыю, я заўважыў, што прысутнічала 58 чалавек...**

— Здагадваюся, што вас цікавіць. Капэла ўкамплектавана поўнасцю, ды колькі часу назад яна была недаўкамплектавана на 15 адзінак, і гэтак было не адзін год. Таму 15 адзінак слушна скарацілі. Цяпер па штаце ў нас 75 чалавек, мінус хворыя, мінус маладыя мамы. Так што становішча даволі цяжкае. Ірына Канстанцінаўна Архіпава пасля таго, як мы з ёю праспявалі «Патэтычную араторыю» Свірыдава, сказала: «Таварышы, гэта ўсё цудоўна, але як вас мала! Гэта ж фізічна цяжка». Так, усялякі твор буйной формы вымагае маштабнага гучання. Мы будзем прасіць, каб нам дадалі як мінімум 15 чалавек. Дзяржаўная акадэмічная капэла — гэта не хор Дома культуры, гэта харавое, культурнае аблічча Беларусі, і на гэта нельга забываць.

**— Па-ранейшаму норма 100 канцэртаў у год?**

— Не, цяпер 88. Дзякуй папярэдняму кіраўніку, ён дамогся гэтага.

**— Людміла Барысаўна, традыцыйна шырмаўская капэла была лабараторыяй харавой творчасці беларускіх кампазітараў. Ці ёсць у вас сёння з імі кантакт?**

— У нас цяпер шмат заявак на выкананне харавых твораў беларускіх кампазітараў, уключаючы маладых аўтараў — выпускнікоў кансерваторыі. Гэты сезон мы (разам з сімфанічным аркестрам) адкрывалі араторыяй Яўгена Глебава «Свяці, зара!». Адбылася прэм'ера кантаты Людмілы Шлег «Гуканне вясны» (таксама з сімфанічным аркестрам). Дарэчы, гэты твор мы запісалі ў фонд Беларускага радыё. З задавальненнем рыхтуем харавы цыкл «Прымхі» Андрэя Мдзівані — будзем спяваць яго ў наступным сезоне. Яўген Паплаўскі прынёс нам свой харавы канцэрт.

**— І такое пытанне. Маглі б вы назваць высокапрафесійныя харавыя калектывы, якія б хацелі пераймаць?**

— Кожны такі калектыў, які вы маеце на ўвазе, вызначаецца сваім абліччам, сваім почыркам, сваім стылем. І калі нейкі з іх пераймаць, дык як жа будзе з уласным абліччам? Не, пераймаць мы нікога не будзем. У мяне ёсць жаданне, і не толькі жаданне, але і ідэі зрабіць калектыў са сваім почыркам, сваім стылем. Я ўпэўнена, што ў шырмаўцаў зноў будзе сваё аблічча.

**— А без такой упэўненасці, відаць, і працаваць немагчыма! Дзякую, Людміла Барысаўна, за інтэрв'ю.**

Гутарыў Арнольд ДЫБЧА.

## *III Усесаюзны фестываль народнай творчасці*

# «Чароўны куфэрак». Пачатак традыцыі?

Тры дні на сцэне Сароцкага Палаца культуры, што на Любаншчыне, паказвалі сваё майстэрства дзіцячыя тэатральныя калектывы з Салігорска, Слуцка і Любані. Амаль адначасова ў Доме піянераў і школьнікаў Кастрычніцкага раёна Мінска адбывалася першая творчая сустрэча дзіцячых тэатральных калектываў з Масквы, Кіева і Мінска. Гэта, думаецца, пачатак добрай традыцыі, арганізатарамі якой сталі калектывы з Мінска і Сарачоў. Як цудоўна, калі сябры па працы збіраюцца на свята, каб паказаць свае работы, бліжэй пазнаёміцца са сваімі аднагодкамі, пагаварыць пра набалелае. Свята, якое адбылося ў Сароцкім Палацы культуры, атрымала назву — дзіцячы тэатральны фестываль «Чароўны куфэрак-88».

У нас існуе нямала цікавых дзіцячых тэатральных калектываў. А вось сустрэцца разам аматарам выпадае не часта, толькі пад час аглядаў: спехам, у мітусні, дзе галоўную ролю іграе канчатковы вынік — месца, прызы і граматы. А блізкага знаёмства, добразычлівых адносін, знаёмства з калектывам і рэпертуарам, ды і наогул абмену думкамі, нестае. Вось у нас і ўзнікла такая думка: а што калі сабрацца разам на свята тэатра?! Перагаварылі з кіраўнікамі дзіцячых тэатральных калектываў Салігорскага Палаца піянераў і школьнікаў і Слуцкага ўзорнага тэатра лялек «Усмешка». Яны з задавальненнем прынялі гэту прапанову. Насустрач нам пайшлі раённы аддзел культуры, райком камсамола, аддзел народнай асветы. Вялікую падтрымку аказаў райком партыі. І калі былі вырашаны ўсе арганізацыйныя пытанні, сабраліся кіраўнікі калектываў, каб выпрацаваць фестывальную праграму.

Па-першае, фестываль павінен стаць святам дзіцячай творчасці, радасці і натхнення. Па-другое, ён павінен мець уласнае творчае аблічча, беларускі нацыянальны каларыт, а не быць проста дзіцячым. Таму за аснову была ўзята традыцыя «народнага куфэрка» як скарбонкі кожнай сям'і і багатай народнай спадчыны, дзе па крупінках збіраецца духоўны скарб, усё лепшае і патрэбнае. Куфэрак — гэта яшчэ і загадка: што мае кожны калектыў і чым папоўніць гэтую скарбонку. Пачэснае права зрабіць «Чароўны куфэрак» было прадастаўлена народнаму майстру Анатолю Арцёмавічу Трубчыку, а ганаровае права адкрыць яго — дзіцячаму паэту Івану Муравейку.

Распачыналі фестывальны паказ арганізатары свята, узорны тэатральны калектыў «Фантазія» Сароцкага Палаца культуры. Юныя артысты паказалі сваю апошнюю работу, спектакль па п'есе-казцы А. Вольскага «Граф Глінскі-Папялінскі», вырашаны ў жанры тэатральна-балаганнага відовішча з выкарыстаннем багацейшых скарбаў вусна-паэтычнай творчасці.

А затым на сцэне адбылося знаёмства з тэатральным калектывам Салігорскага Палаца піянераў і школьнікаў (кіраўнік Н. Мяркулава). І пачалося яно незвычайна — з вясёлых дзіцячых гульняў на ўважлівасць, хуткасць, вынаходлівасць. Ды і ў самім спектаклі «Піянерскі кнот» выкарыстаны забаўныя гісторыі са школьнага жыцця. У ім няма эфектных сцэнічных касцюмаў і дэкарацый, але ёсць галоўнае — гульня, тэатр.

Другі дзень фестывалю быў прысвечаны больш блізкаму знаёмству ўдзельнікаў фестывалю з Любаншчынай. Яно пачалося з музея баявой і працоўнай славы ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгаса «Чырвоная змена», у Палацы культуры якога праходзіў фестываль. А потым удзельнікі фестывалю раз'ехаліся па навакольных вёсках: Малыя Гарадзячыцы, Сосны, Загалле, дзе паказалі свае спектаклі.

Вечарам у Сароцкім Палацы культуры выступіў драматычны калектыў Салігорскага Палаца піянераў і школьнікаў, які прадставіў на суд гледачоў спектакль па аповесці-казцы англійскай пісьменніцы П. Трэверс «Мэры Попінс». Спектакль салігорцаў прасякнуты выдумкай, казачнасцю. Кіраўнік калектыву І. Андронава, для якой гэты спектакль — дыпломная работа, напоўніла яго светлай марай, надзеяй.

Трэці дзень фестывалю пазнаёміў нас з узорным тэатрам лялек «Усмешка» Слуцкага гарадскога Палаца піянераў і школьнікаў. Вось ужо дванаццаць гадоў існуе гэты цікавы калектыў, восем з іх носіць ганаровае званне ўзорнага. Кіруе ім В. Вішняк. «Усмешка» спалучае ігру жывых акцёраў з ігрой лялек. Гэта робіць спектаклі больш відовішчнымі і эмацыянальнымі.

На фестывалі калектыў паказаў п'есу А. Качуры «Цуд-птушка». Гэты спектакль больш падобны на святочнае тэатралізаванае прадстаўленне з элементамі гульні, танцаў. Спектакль разлічаны на маленькіх гледачоў. І яны з захапленнем удзельнічалі ў ім.

Спектакль тэатра мініяцюр Салігорскага Палаца піянераў і школьнікаў «Беласнежка і сем гномаў» знешне спакойны, «неэксперыментальны», пастаўлены ў рэчышчы традыцый. Ён радуе гледача маляўнічасцю дэкарацый і прыгажосцю казачнага асяроддзя. Адна з любімых дзіцячых казак ажыццёўлена на сцэне кіраўніком тэатра Н. Грамыкай.

Фестываль — гэта ў першую чаргу свята, таму на ім не было традыцыйнага журы. А было глядацкае, якое адзначыла прызам глядацкіх сімпатый узорны тэатр лялек «Усмешка», а таксама лепшых выканаўцаў кожнага спектакля. Шкада, што вялікай цікавасці да фестывалю не праявілі кіраўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, не было і прадстаўнікоў прафесійнага тэатра, якія б маглі прааналізаваць кожны спектакль, зрабіць заўвагі, падвесці вынікі.

Кіраўнікі калектываў вырашылі, што фестываль павінен стаць традыцыйным і праходзіць на Любаншчыне ў Сароцкім Палацы культуры. Ён — стымул для актывізацыі творчай і арганізацыйнай работы ў кожным калектыве. Ды і наогул удзельнікамі яго павінны стаць цікавыя творчыя калектывы з іншых гарадоў і вёсак. Фестываль павінен станоўча ўплываць на развіццё самадзейнасці ўвогуле, а галоўнае паддаць новы творчы імпульс дзіцячай тэатральнай творчасці. Трэба і надалей абавязкова ўключаць у праграму фестывалю знаёмства з раёнам, паказ выязных спектакляў. А грошы ў час фестывалю перадаваць у Дзіцячы фонд імя У. І. Леніна і фонд Міру.

**Васіль КАТКАВЕЦ,**
**рэжысёр Сароцкага ўзорнага тэатральнага калектыву «Фантазія».**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ЗНОЎ ПЕРАСТРАХАВАЛІСЯ?..

21 мая г. г. па праграме Беларускага тэлебачання ў 19 гадзін 35 мінут ішоў тэлевернісаж — «Першы народны... Уладзіслаў Галубок».

Вось мы ўсе — дзеці і ўнукі, праўнукі і сваякі глядзім гэты тэлевернісаж з хваляваннем, сочым, як разгортваецца дзея і, відома, радыя ад таго, што зноў паўстае наш Галубок перад намі — хоць толькі на здымках і паводле слоў тых, хто яго добра ведаў, працаваў з ім, ці жыў у сям'і з Галубком — гэта З. Азгур, Т. Шашалевіч і аўтар гэтых радкоў. (Нас запрасілі 19 красавіка ў студыю Беларускага тэлебачання і зрабілі запіс нашых успамінаў).

Мабыць, толькі я адзін з галубкоўцаў ведаў, што ў перадачы было скарочана (выразана), можа, самае галоўнае. Я прадбачыў такі вынік, бо меў вопыт дваццацігадовай даўніны, калі надрукавалі ў часопісе «Маладосць» (1968 г., № 4) мой артыкул — «Народны артыст». Уладзімір Юрэвіч — адказны сакратар часопіса на той час — перадаў мой артыкул супрацоўніку рэдакцыі Уладзіславу Нядзведскаму, які, трымаючы артыкул, сказаў мне, што «зараз будзем здымаць стружку», — так тады называлі рэдактарскую апрацоўку артыкулаў. Стружка была знята не столькі з майго артыкула, колькі з яго героя — Галубка. Быццам нічога не здарылася, а Галубок памёр ад гіпертанічнай хваробы ў 1942 годзе... Не ведаем мы, дзе пахаваны Галубок. Стандартная хлусня распаўсюджана на ўсіх, каго расстралялі ці замардавалі ў 1937 і пазней... Ну, а ў 1968 я быў вельмі рады таму, што надрукавалі мае ўспаміны — няхай сабе са «знятай стружкай»...

Прыкра глядзець, як здымаюць стружку сёння. Ад самога Галубка ў тэлеперадачы таксама засталося няшмат... А такія людзі не паміраюць, пра іх застаюцца легенды. Напрыклад, пра тое, што бачылі Галубка недзе ў Сібіры з тэатрам. Чаму ж мы і сёння, у часы галоснасці, шэптам, быццам саромеючыся, згадваем толькі тое, што не рэжа вуха? І атрымалася — не расстралялі, а памёр сваёй смерцю; зрабілі вобыск у доме спецыялістаў, ну і што?.. БДТ-3, як гняздо нацыянал-дэмакратаў ці шпіёнаў (словы Т. Шашалевіч аб гэтым скасаваны ў перадачы), быў разагнаны, ушчэнт вынарчаваны — бо кіраваў ім «вораг народу» Уладзіслаў Галубок. То, можа, гэтага тэатра і не было ніколі? Быў, як было і тое, што жонка Галубка Ядвіга Аляксандраўна рэзала сабе вены ў парку Чэлюскінцаў — яе ледзь выратавалі. У сям'і Галубка аднялі палову кватэры, а сярэдняя дачка Галубка з немаўляткам-сынам мусіла шукаць кут, каб недзе жыць. І калі аўтар гэтых радкоў звярнуўся па дапамогу да старшыні гарсавета Бударына, дык ён адказаў так: «Нічым дапамагчы не магу — дрэнна быць сваяком ворага народу». Старэйшаму сыну Галубка Эдуарду — навуковаму супрацоўніку Беларускай акадэміі навук — не далі абараніць дысертацыю па беларускай драматургіі. Старэйшую дачку Багуславу, якая скончыла медінстытут, у другі раз па загаду пракурора Гінзбурга прымусілі ехаць на вёску — дачцэ ворага народа няма месца ў сталіцы! Двум сынам Галубка — сярэдняму Леапольду, шафёру грузавой аўтамашыны, ды малодшаму Сігізмунду, электрыку, не забаранілі працаваць, а толькі выключылі з камсамола як дзяцей ворага народа. Зараз многім цяжка паверыць, у якім становішчы апынуліся дзеці Галубка (якія ўжо мелі сваіх дзяцей!), хоць і існаваў сталінскі «абараняльны закон»: «Дзеці не адказваюць за сваіх бацькоў». Адказвалі ды яшчэ як, на кожным кроку адчувалі «клопат» бацькі ўсіх народаў — замест родных бацькоў, што гнілі ў лагерах або былі расстраляны адразу пасля арышту.

«Выстрыглі» з перадачы і мае словы аб тым, што ў дзень арышту Галубка ў Гомелі прывезлі мастака Сімкоўскага ў НКВД і прымусілі яго зафарбоўваць прозвішча Галубка пад кожным краявідам, якія былі зняты з экспазіцыі ў фае тэатра. Я гаварыў, што з тых краявідаў засталося ўсяго чатыры, і зараз Міністэрства культуры ніяк не можа перадаць іх літаратурнаму музею ў Мінску, які збірае ўсё зробленае Галубком — як мастаком, так і драматургам. Відаць, рэдактары тэлевернісажу перастрахаваліся...

Нам абяцалі паказаць частку дакументальнага фільма «Уладзіслаў Галубок», дадаўшы яго да нашай перадачы, але замест іх далі фрагменты «Ветрагонаў», што было як недарэчна, так і непісьменна, быццам няма ў Галубка трох класічных п'ес (такіх, як «Ганка», «Суд» і «Пісаравы іменіны»). Чым кіраваліся рэжысёры і рэдактары ў гэтай перадачы — невядома...

**Яўген ЦІХАНОВІЧ,**
**мастак.**

г. Мінск.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ «ЛіМа»

**Алесь БІБІЦКІ**

### *Жыццё — ёсць рух*

Жыццё — ёсць рух...
Але куды?
Бо ён два мае накірункі...
А мы кружлялі праз гады —
Вязалі з павуцін карункі.
Крыклівым лозунгам заўжды
Платы ўпрыгожвалі і хаты.
А колькі ж вылілі вады
З трыбун у будні і на святы!
Любыя бралі рубяжы,
Ды языком, а не на справе.
Не напінаў і той гужы,
Хто каралём хадзіў пры славе.
Нат за вялікія грахі
Мы на пасадах не «гарэлі»,
Бо як нізы, так і вярхі
Працэнтаманіяй хварэлі.
Імчаў паток хвалебных од,
Без дайпрычыны гучалі тосты...
Жыццё ёсць рух, наперад ход,
Ды ён — не лёгкі і не просты.

**Марына ГУДКОВА**

### *Кранаўшчыца*

НАЧНАЯ ЗМЕНА

Шыпіць электразварка
Пад кранам
Сярод ночы.
Як дробязная сварка,
Часова слепіць вочы.
Вятрамі скрозь прашыта,
Цягну за тонай тону...
Жаночы лёс нібыта
Прабіўся з-пад бетону.
Было б жыццё, а слава...
Я позірк прама кіну —
Зноў месяц так ласкава
Заглядвае ў кабіну!

**Генадзь КАЗАК**

### *Забыць не можам*

Нам часта
Не хапае цішыні,
І успаміны
Кожны дзень трывожаць...
І колькі год жывём мы
Без вайны,
І столькі год забыць яе
Не можам.

**Ірына БАГДАНОВІЧ**

### *Дзіцячы дом*

1.

— Вунь мама!
Гэта мая мама! —
Дзяўчынка крыкнула з акна.
— Мая, мая, — наперабой
Дзяўчынкі, хлопчыкі крычалі.
Я прабягала ўздоўж акон
І думала, што нейкі дзіўны
Дзіцячы сад...
Так блізка я ніколі не была
Перад судом дзіцячай адзіноты.

2.

Душа дзіцячая не ведае падману.
Што мне сказаць на шчыры покліч:
— Ма-ма!?..
Мне захацелася пайсці хутчэй,
У звычнае жыццё сваё забегчы.
Ды немагчыма ўзняць было вачэй,
Пабачыўшы іх дробненькія плечы,
На свет уладкаваных гараджан,
На свой уласны лёс,
Хоць не салодкі.
Я вінаватаю сябе адчула
За ўсіх жанчын,
Нібыта гэта я...

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

### *Кацігарошак*

Пракаветны ўпарты пошук:
Ты адкуль, Кацігарошак?
Дзе браты твае, сястрыца,
Дзе вытокі, дзе крыніца?
Ці магчыма адшукаць
Курганы, дзе продкі спяць
У заслужаным спакоі
Пасля праведнага бою?..
Ты імкнуўся да адказу
І хаця не ўведаў назву,
Ды шукаў сваю краіну,
Гэты пошук нам пакінуў,
І таму ты — не без роду,
Не фантазія народу,
А яго душы крывінка,
Неад'емная часцінка...
Мы ж усе — кацігарошкі,
А калі блукаем трошкі
У віхурных дзеях часу,
Прыгадаецца адразу:
Казка добрая старая
Песня матчына былая,
Капытоў імклівы пошчак —
І жыве Кацігарошак!

## ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

# НАКАНАВАННЕ

**На пленуме ЦК КПБ, які адбыўся ў маі гэтага года, ішла размова аб шляхах перабудовы народнай адукацыі. Называліся імёны настаўнікаў, вопыт і ўменне якіх могуць стаць добрай дапамогай у гэтай нялёгкай справе. Сярод іншых вядомых імёнаў прагучала і імя народнай настаўніцы СССР, выкладчыцы рускай мовы і літаратуры з Навагрудка Валянціны Георгіеўны ГАХОВІЧ.**

«Што такое чалавек перад зруйнавальнай сілай бесчалавечных абставін? На што ён здольны, калі магчымасці адстаяць сваё жыццё вычарпаны да канца і прадухіліць смерць немагчыма?»

Гэтыя словы Васіля Быкава, напісаныя крэйдай на дошцы —як эпіграф, камертон да ўрока па літаратуры ў 9-м класе. Ідзе разбор аповесці Быкава «Сотнікаў».

Толькі што празвінеў званок, а ўжо ідзе сур'ёзная, без скідак на ўзрост, інтэлектуальная работа, у якой у роўнай ступені ўдзельнічаюць настаўнік і вучні. Услед за героямі твора — Сотнікавым і Рыбаком — ідуць яны ў гэтыя хвіліны шляхам фізічных і маральных выпрабаванняў, пагружаючы ў найскладаныя, маральныя праблемы. І праваднікам на гэтым шляху — сама аповесць.

Валянціна Георгіеўна Гаховіч падключае да размовы ўсё новых і новых вучняў. Кожнаму дае магчымасць выказацца, але імкнецца, каб школьнікі не збіваліся на звычайны пераказ тэксту.

Каб уключыцца ў напружаную, хоць і свабодную, раскаваную размову, што адбываецца на ўроку, трэба не проста памятаць змест твора. Трэба ўмець разважаць над прачытаным, звяртаць увагу на мастацкія дэталі.

Канечне, дасканалае веданне твора—першааснова. Прытым Валянціна Георгіеўна пераканана, што твор беларускага пісьменніка, уключаны ў праграму па рускай савецкай літаратуры, яе вучні могуць і павінны чытаць на роднай мове. І па ходу ўрока яна карыстаецца арыгінальным тэкстам. І гэтае «двухмоўе» ніколькі не перашкаджае ў размове.

Галоўнае ж — паспрабаваць адказаць на пытанні. Іх многа. Чаму Рыбак, у нечым сімпатычны нам, чалавек дзеяння, смелы і ўпэўнены ў сабе, аказаўся здольным на самае страшнае — на здраду? І адкуль сілы ў фізічна нямоглага, хворага Сотнікава прайсці праз самыя страшныя катаванні і — маральна перамагчы ворага? І што наогул дазваляе чалавеку заставацца чалавекам у бесчалавечных абставінах? І што такое гераізм? Што такое маральны выбар? І што такое чалавек? Няпроста адказаць на гэтыя пытанні. Васіль Быкаў не дае на іх прамых адказаў. Ды і ці ёсць яны наогул? Але кожны, або, скажам так, амаль кожны з вучняў на ўроку, як мне падалося, шукаў адказу на гэтыя пытанні — хоць бы для самога сябе. А ўсе разам, з дапамогай настаўніка, яны спрабавалі дайсці да сутнасці твора, спасцігнуць гуманістычны яго сэнс.

Урок скончыўся, і я заўважаю, як нялёгка даўся ён Валянціне Георгіеўне! Лагодны, маладжавы яе твар зрабіўся нервовым, у вачах застыў ледзь прыхаваны боль. Ва ўсёй постаці гэтай невысокай жанчыны адчуваецца стомленасць. Потым Валянціна Георгіеўна прызнаецца, што кожны раз, калі размова на ўроку ідзе аб вайне, ён вымагае ад яе напружання ўсіх душэўных сіл...

У вайну, у час расправы фашыстаў над мірным насельніцтвам у вёсцы Калдычава, былі закатаваны яе бацька, маці, дзед і цётка. Пасля смерці бацькоў маленькая Валянціна засталася пад апекаю аднаго з дзядзькоў. Нялёгка было ў чужой сям'і.

Валянціна Георгіеўна неахвотна расказвае пра сябе. Успаміны дзяцінства раняць сэрца. Ну, а потым... Ніякіх крутых паваротаў у жыцці, усё звычайнае — як ва ўсіх, лічыць яна.

Пасля вызвалення Беларусі ад фашыстаў Валянціну забрала да сябе ў Навагрудак няблізкая радня па лініі бацькі — настаўніца Ганна Іосіфаўна Жалезняковіч. Так, можна сказаць, і вызначыўся жыццёвы выбар Валянціны Георгіеўны. Канчатковым ён стаў, калі ў 10-м класе пазнаёмілася з настаўніцай рускай мовы і літаратуры Нінай Рыгораўнай Ліпенцавай. Яна не толькі абуджала ў вучняў цікавасць да работы са словам, але перш за ўсё вучыла думаць самастойна. Гэтаму запавету — перш за ўсё вучыць думаць — Валянціна Георгіеўна захоўвае вернасць да гэтай пары.

Пасля заканчэння школы з сярэбраным медалём пытання, куды паступаць, для Валянціны Георгіеўны не было. Было толькі адно сумненне: філалогія ці... матэматыка. Захаплялася яна апошняй доўгі час і ўсур'ёз. Паступіла ў Мінскі педагагічны інстытут усё ж такі на філалогію. Тут пазнаёмілася са сваім будучым мужам. Неўзабаве, хоць гэта ў той час не вельмі ўхвалялася, маладыя студэнты пажаніліся. Даводзілася часам не соладка.

Запомніўся Валянціне Георгіеўне выпускны год — 56-ы. Ён супаў з гістарычным XX з'ездам. Многія, успамінае яна, тады былі разгублены. Яшчэ зусім нядаўна, тры гады назад, у дзень смерці «вялікага правадыра» ішлі натоўпы да помніка Сталіну ў цэнтры Мінска, неслі кветкі, плакалі. І вось цяпер, перад самымі выпускнымі экзаменамі, замест работ Сталіна трэба вучыць Леніна. Давялося ў літаральным сэнсе слова перавучвацца на хаду...

Пасля заканчэння інстытута некаторы час настаўнічала ў Асіповічах.

Потым вярнулася ў Навагрудак, і вось ужо хутка трыццаць год, як выкладае рускую мову і літаратуру ў сярэдняй школе № 3.

Прашу Валянціну Георгіеўну параўнаць школу сённяшнюю і тую, трыццацігадовай даўнасці. Ці многае змянілася за гэтыя час?

— Безумоўна, змены вялікія. Асабліва многа іх адбылося ў самы апошні час. У настаўніка цяпер больш свабоды. Метадычкі і інструкцыі літаральна звязвалі нас па руках і нагах. Цяпер нарэшце ўзаконена права настаўніка выбіраць метады вядзення ўрока. Атрымала ў рэшце рэшт «права грамадзянства» педагогіка супрацоўніцтва... Што дасць аб'яднанне некалькіх міністэрстваў і ведамстваў у адзіны камітэт, пакуль не зусім ясна. Але ў сувязі з перабудовай народнай адукацыі трывожыць настаўніка, адрываць яго ад справы стала менш. Куды меней стала праверак, камісій, загадаў. Хацелася б, каб так працягвалася і далей. Вельмі важна, каб настаўніку нарэшце далі магчымасць спакойна працаваць, даверылі яму.

Але самае галоўнае адрозненне цяперашняй школы ад тагачаснай — самі дзеці. Сённяшнія школьнікі, асабліва старшакласнікі куды больш ведаюць у параўнанні са сваімі аднагодкамі 50—60-х гадоў. Усе газеты, часопісы, прачытваюцца імі імгненна. Ніводная цікавая перадача па тэлебачанні не прапускаецца. Мае дзевяцікласнікі з захапленнем глядзелі «Жыццё Кліма Самгіна» — фільм зусім не просты для ўспрымання. Нядаўна прайшоў дакументальны фільм «Працэс». Колькі было спрэчак потым, колькі пытанняў! І на кожнае яны чакаюць адказу — і пра культ асобы, і пра рэпрэсіі, і пра рэабілітацыю. А далёка не на кожнае пытанне ёсць гатовы адказ. Але адказваць трэба. Нельга ўходзіць ад сур'ёзнай размовы з юным пакаленнем нават на самыя балючыя тэмы. Зараз ідзе актыўны працэс пераасэнсавання, пераацэнкі цэлых перыядаў нашай гісторыі, адкідваюцца прэч догмы і стэрэатыпы мінулага. Але вельмі важна, каб гэты працэс не размыў маральныя крытэрыі, не спарадзіў нігілізм у некрэплых душах, нявер'е ў каштоўнасці сацыялізму.

Тут вельмі многае залежыць ад настаўніка. Перш за ўсё, каб заставацца аўтарытэтам для вучняў, ён павінен не адставаць ад жыцця, быць у курсе ўсяго новага, перадавога. Калі ты выкладаеш літаратуру — значыць, павінен быць у курсе ўсіх літаратурных навінак.

На жаль, не заўсёды гэта ўдаецца. «Дзеці Арбата», напрыклад, прыйшлося прачытаць за адну ноч — чарга! А «Белае адзенне» і дагэтуль прачытаць не ўдалося. Далёка не адразу ўдалося знайсці «Плаху». Ну, а для вучняў навінкі літаратуры часцей за ўсё проста недасягальныя. Ды што там навінкі! Не ўсе творы, уключаныя ў новую праграму па савецкай літаратуры, можна дастаць. Таго, што ёсць у бібліятэках нашых, катастрафічна не хапае. Колькі часу страцілі мы з вучнямі ў пошуках твораў Абрамава, Носава, Кандрацьева...

Да праграмы па літаратуры ў Валянціны Георгіеўны наогул ёсць сур'ёзныя прэтэнзіі. Хіба можна, скажам, «эканоміць» на біяграфіях пісьменнікаў? Часта іменна жыццёвы шлях пісьменніка дае ключ да разумення ўсёй яго творчасці. А што, да прыкладу, можа даць вучню вывучэнне паасобных раздзелаў (!) з такога складанага твора, як «Што рабіць?» Чарнышэўскага?

Добра яшчэ, што не скарацілі гадзіны на вывучэнне «Вайны і міру» Л. Талстога — любімага твора Валянціны Георгіеўны.

Не хавае яна свайго здзіўлення тым, што ў праграме па беларускай савецкай літаратуры даецца толькі агульны агляд творчасці В. Быкава. А ў праграме рускай савецкай літаратуры «Сотнікаў» прапануецца на выбар з некалькіх твораў розных аўтараў. Так што таго ўрока, на якім мне давялося пабываць, магло і не быць.

Скарачэнне біяграфій класікаў, непрадуманы, часта выпадковы падбор сучасных твораў савецкіх аўтараў — гэта, можна сказаць, палова бяды, лічыць Валянціна Георгіеўна. Самае небяспечнае, самае згубнае, на яе погляд, — гэта няўхільнае, з году ў год, скарачэнне ўсяго гуманітарнага цыкла прадметаў у школе. І гэта пры тым, што агульная вучэбная нагрузка на школьніка ўвесь час расце. Ужо цяпер дзеці часам бываюць прымушаны працаваць ледзь не па 16 гадзін у суткі!

Мова і літаратура — гэта не проста сума нейкіх карысных ведаў і правіл. На прыкладах класічнай літаратуры, лепшых сучасных твораў закладваецца разуменне не толькі эстэтычных, але і этычных законаў, законаў маралі.

Зразумела, маралі вучыць не толькі і не столькі школа. Вучыць жыццё. Вучыць сям'я. І вось тут — упэўнена Валянціна Георгіеўна — параўнанне сённяшняй сітуацыі з тым, што было дваццаць-трыццаць год назад — не на карысць сучаснай. Толькі разам сям'я і школа могуць выхаваць сапраўднага чалавека, грамадзяніна. Але супрацоўніцтва паміж школай і сям'ёй паступова зыходзіць на нішто. Ясна, што на сям'і асабліва востра адбіваецца негатыўныя з'явы — п'янства, безбацькоўшчына, агульнае падзенне маралі. Амаль у кожным класе можна сёння ўбачыць не проста адсталых, — душэўна хворых дзяцей. Аб якім выхаванні тут можа ісці размова!

Бяда, аднак, яшчэ і ў тым, што абсалютна здаровыя, дагледжаныя, модна апранутыя дзеці таксама часам аказваюцца невылечна «хворымі». Намаганнямі сваіх жа бацькоў. Хворымі на інфантылізм, безыніцыятыўнасць, чэрствасць, эгаізм.

Многа зараз гаворыцца пра самакіраванне ў школе. Гэта правільна. Але самакіраванне азначае для школьнікаў не толькі ўменне самастойна думаць, але і самастойна дзейнічаць, не чакаць падказкі дарослых, умення працаваць у калектыве і ўмення пастаяць за сябе. Канечне, школа павінна дапамагчы сфарміраваць гэтыя якасці. Але без супрацоўніцтва з сям'ёй, без дапамогі сям'і школа нічога не зробіць.

Валянціна Георгіеўна, апрача рускай мовы і літаратуры, вядзе яшчэ адзін прадмет —этыку сямейнага жыцця. Вядзе з самага пачатку ўвядзення яго ў школе. А ведае яго не толькі з кніжак. У Валянціны Георгіеўны — трое дзяцей, падрастаюць і ўнукі.

Калі я даведаўся пра гэта, а яшчэ і пра тое, што Валянціна Георгіеўна вядзе клуб паэзіі «Душа і ліра», разам з вучнямі рыхтуе штогод літаратурныя вечары (вельмі часта яны прысвячаюцца Адаму Міцкевічу, які нарадзіўся на Навагрудчыне), ды яшчэ выязджае ўвесь час на шматлікія пасяджэнні і семінары, ды яшчэ пастаянна падтрымлівае сувязі з вучонымі-педагогамі, аўтарамі падручнікаў, — я не ўтрымаўся, спытаў: «Адкуль на ўсё гэта бярэцца час?»

Валянціна Георгіеўна адказвала крыху сумнай усмешкай.

— Так, настаўнік сам сабе не належыць. Паняцця вольнага часу ў нас практычна няма. І з узростам, вядома, здароўя не прыбаўляецца. А так хочацца паездзіць, убачыць родныя мясціны выдатных паэтаў — Пушкіна, Ясеніна, паказаць гэтыя мясціны дзецям. На вялікі жаль, арганізаваць экскурсію раённай школе часцей за ўсё не пад сілу. Ды і многае яшчэ ёй не пад сілу. Дагэтуль у нашай школе няма актавай залы. Літаратурныя вечары даводзіцца праводзіць у кабінеце літаратуры. Праўда, сёлета павінны пачаць рабіць прыбудову да школы. Тады, ёсць надзея, з'явіцца і зала.

Гаварылі мы з Валянцінай Георгіеўнай яшчэ на адну, досыць далікатную тэму. Апошнім часам у друку ўзнімаецца пытанне аб немэтазгоднасці ўзнагарод і званняў. Валянціна Георгіеўна з гэтым не згодна. Яна лічыць, што хто-хто, а настаўнікі званнямі зусім не запешчаны. Першае званне, а потым і ўсе чарговыя прысвойваюцца строга праз пяць год работы ў школе. Вось і атрымліваецца — пакуль настаўнік малады, поўны энергіі і жадання працаваць, эксперыментаваць, калі ён здольны на многае, грамадскага прызнання яму не дабіцца. Яно можа прыйсці (а можа і не прыйсці) толькі праз многа гадоў, калі ўжо час збірацца на пенсію. Хіба гэта справядліва?

А хіба справядліва, што ў адносінах да настаўніка, гэтага вечнага працаўніка, усё яшчэ дзейнічае «рэшткавы прынцып» у сацыяльным забеспячэнні? І кватэру настаўніку не ў першую, мякка скажам, чаргу даюць, і нават пуцёўку ў звычайны дом адпачынку настаўнік можа дастаць толькі вялікімі намаганнямі.

Валянціна Георгіеўна абрана дэлегатам чарговага Усесаюзнага з'езда настаўнікаў. І калі давядзецца — усё тое, пра што мы гаварылі, яна скажа з трыбуны з'езда. Скажа шчыра, усхвалявана і адкрыта, як прывыкла гаварыць у жыцці.

●

Што такое чалавек? У чым сэнс жыцця? Ці існуе маральны выбар? Ёсць нямала людзей, якія, пражыўшы жыццё, так ніколі і не зададуць сабе падобнага пытання. А мне верыцца, што тым, хто браў урокі ў Валянціны Георгіеўны Гаховіч, хвароба гэтая — бездухоўнасць — як не пагражае.

**Віталь ТАРАС.**



# Хрысціянізацыя Русі і беларуская культура

ГЭТАМУ пытанню быў прысвечаны навуковы калёквіум, што адбыўся 21 мая ў Мінскім епархіяльным упраўленні Праваслаўнай царквы. У ім удзельнічалі звыш 60 вучоных і рэлігійных дзеячаў Мінска, Масквы, Ленінграда, Кіева, Вільнюса. Мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт у сваім уступным слове «Руская Праваслаўная царква і саборная самасвядомасць рускага, украінскага, беларускага народаў» шырока асвяціў гістарычную ролю саборнасці, духоўнага адзінства ва ўлонні адзінай царквы для развіцця дружбы народаў, сумоўнасці нацыянальных культур, патрыятычнага пачуцця славянскай аднакарэннасці ў нетрах Кіеўскай Русі.

На калёквіум было прадстаўлена звыш 20 дакладаў: «Распаўсюджанне хрысціянства на Полацкай зямлі» (доктар гістарычных навук Г. В. Штыхаў), «Тураўская зямля і Кірыла Тураўскі» (доктар гістарычных навук П. Ф. Лысенка), «Жыццё і жыццяпіс Еўфрасінні Полацкай» (аспірант А. А. Мельнікаў), «Праваслаўная царква ў Беларусі ў XIV—XVI стст.» (доктар гістарычных навук А. П. Грыцкевіч), «Жыровічы як цэнтр літаратурнага жыцця XVI—XVII стст.» (доктар філалагічных навук А. І. Мальдзіс), «Новазапаветныя вобразы і матывы ў беларускім фальклоры» (доктар філасофскіх навук У. М. Конан), «Станаўленне старажытнабеларускай літаратуры: вытокі і традыцыі (візантыйскія і старажытнарускія)» (кандыдат філалагічных навук В. А. Чамярыцкі), «Каляндарная палеміка. Праваслаўны каляндар» (А. М. Пянтскоўскі. Інстытут гісторыі прыродазнаўства і тэхнікі АН СССР), «Біблейскія вобразы і сімвалы ў творчасці Сімяона Полацкага» (Л. У. Званарова, часопіс «Литературная учеба»), «Праблема культуры і веры ў творчасці Мялеція Сматрыцкага» (кандыдат філалагічных навук У. Г. Кароткі), «Праведная Сафія Слуцкая» (В. К. Антонік, кандыдат багаслоўскіх навук, Маскоўская духоўная акадэмія), «Храмавы жывапіс Беларусі XI—XVIII стст.» (В. В. Церашчатава, кандыдат мастацтвазнаўства), «Старажытныя беларускія царкоўныя спевы. Знаменная манодыя» (Л. Ф. Касцюкавец, кандыдат мастацтвазнаўства), «Традыцыі ў іканапісе. Працы сучасных іканапісцаў Мінскай епархіі» (А. М. Крэс, мастак), «У архіве МДА. Агляд кандыдацкіх і дыпломных прац, прысвечаных беларускай тэматыцы» (святар Сергій Гардун), «Узаемадзейнасць рускай і беларускай культуры: навуковая дзейнасць Ленінградскай духоўнай акадэміі ў яе гістарычным аспекце і сучаснасці» (К. І. Лагачоў, старшы навуковы супрацоўнік), «Праваслаўныя традыцыі адзінства ў царкоўнай гісторыі Беларусі. Заключнае слова» (доктар багаслоўя, протапрасвітар Віталій Баравой, МДА) і іншыя.

У сваіх выступленнях вучоныя паказалі станоўчую ролю хрысціянізацыі ў развіцці духоўнай культуры Беларусі, яе літаратуры, мастацтва, адзначалася значэнне багатай літаратурнай славянскай мовы, якая прыйшла на Русь з хрышчэннем, для хуткага развіцця беларускай мовы. Была звернута ўвага на ролю традыцый старажытнай Русі ва ўзрастанні патрыятычнага пачуцця, адчування адзінства, на ролю хрысціянскага гуманізму ў фарміраванні маральнай самасвядомасці чалавека і народа. Упершыню было разгледжана пытанне хрысціянскай тэматыкі і новазапаветных вобразаў у фальклоры. Сабраны вучонымі багаты фактычны матэрыял, вынікі біяграфічных пошукаў і архіўных знаходак маюць аднолькавае значэнне як для свецкай, так і для духоўнай культуры (у яе царкоўным аспекце). Гэта аб'ядноўвала навуковыя інтарэсы ўсіх удзельнікаў калёквіума.

Выступленні багасловаў — выкладчыкаў духоўных акадэмій, святароў далі магчымасць нашым вучоным пазнаёміцца з сучасным царкоўным праваслаўным разуменнем такіх складаных пытанняў, як плюралізм вытокаў хрысціянства, саборнасць, роля святасці ў ду-

СТАРОНКІ СПАДЧЫНЫ: НОВАЕ ПРАЧЫТАННЕ

Георгій КОЛАС

# Што за птушка?

Я не сокал зоркавокі,
Не арол адважны,
Што так думна за аблокі
Ўзносіцца з іх кажны.

Нават я не салавейка,
Што пяе так слаўна,
А я толькі верабейка,
Ўзрошчаны пад Гайнай...

Янка Купала.

ЦІ ПЫТАЎСЯ хто ў сябе, чаму мы так гаворым: «што за птушка»? Часам скажам — «што за звер»... Чаму няма камічнага адцення на пытаннях «што за кветка», «што за дрэва», «што за рыбіна» ці «што за матылёк»... Аналагічная карціна ў рускай і ўкраінскай мовах. Мо да нашых продкаў залятали птушкі незнаёмыя, якіх яны не ведалі раней, і гэткім чынам паступова склалася алегарычнае крылатае выслоўе (рускае пазнейшае выслоўе «что за фрукт» — прамая калька з «птушкі»)?

...Пустарэвіч у «Паўлінцы» просіць у Крыніцкага зірнуць на фатаграфію Якіма, шчэ не ведаючы, што на ёй — Якім Сарока:

— Што за птушка?

— На, глядзі, сваток...

А потым двойчы ў тэксце паўтараецца абодвума сватамі:

— Собственна, Сарока, вось-цо-да.

— Але ж, але! Якім Сарока.

І заўсёды ў зале выбухае смех. З-за супадзення прозвішча Якіма з формай запытання? Ці таму, што Пустарэвіч быццам спадзяваўся ўбачыць «птушку» іншую і больш пачэсную — Арла ці Сокала, а тут, маўляў, глядзі ты, нейкая сарока-кыш-варона?..

А цяпер запросім чытача да першага Купалавага асабістага паведамлення пра «Паўлінку» — да ягонага пісьма з Акопаў у Пецярбург (5.VI.1912) прафесару Б. І. Эпімах-Шыпілу. З гэтага пісьма мы ведаем, што першым чытачом «Паўлінкі» быў Ядвігін Ш. альбо А. А. Лявіцкі, а наступным чытачом, як вынікае, зноўтакі, з пісьма, павінен быў стаць... «кс. Астрамовіч» («на днях маюся з'ездзіць да кс. Астрамовіча»), а потым — «нашаніўскія» таварышы Купалы («а стуль, пагасціўшы трохі дома, усё-такі пастараюся быць у Вільні»).

Што паклікала Купалу, нават не перапісаўшы п'есу «начыстую» — да «кс. Астрамовіча», і што гэта за птушка? У адказ мы атрымаем паэтычны псеўданім «Андрэй Зязюля», — Астрамовіч быў паэтам, друкаваўся ў «Нашай Ніве», іншыя ксяндзы казалі пра яго: «То дурань», — бо пісаў і гаварыў па-беларуску, нават і ў час касцёльнай службы. «Гнаны польскай духоўнай уладай за сваю беларускасць з парафіі ў парафію, а часта і цалкам пазбаўлены за гэта пасады, туляўся бяздомны па шырокай Беларусі ад таварышаў да таварышаў, ад знаёмых да знаёмых, ад прыяцеляў да прыяцеляў, насіў у гарачай душы сваёй крыўду і ніколі не агаснучы жар любові да паднявольнага люду», — чытаем пра яго ў прадмове да ягонай кнігі вершаў «З роднага загону». Вось яшчэ ўспамін (у «Беларускім звоне», 16.XII.1921): «Я не мог як належыць разгледзець духаўнічай адзежы кс. Астрамовіча і падумаў проста, што ён які-небудзь вясковы вучыцель»...

А цяпер давайце параўнаем «кс. Астрамовіча» — з Якімам. Прозвішчы — Сарока і Зязюля. «Дурань» — «гэтае хамуйла, гэтае плюгаўства». Беларус ці шляхціц. Ксёндз-вучыцель ці настаўнік «На Камчатку» — «Хе-хе-хе! ужо гэтае мужыцкае насенне не будзе больш нашых сцежак паганіць»...

«Беларускі звон» працягвае характарыстыку Зязюлі: «Просты, але энергічны нейкі выраз твару, вясёлы, мала падобны на духоўніцкі гумар і вечная лёгкая ўсмешка пры гэткай жа лёгкай гутарцы выказвалі незвычайную нейкую несмяротную маладосць, вялікую здольнасць і энергію». Дальбог, такімі ж словамі мы маем права напісаць сцэнічнарэжысёрскую альбо акцёрскую характарыстыку Якіма...

І ўся паэзія Зязюлі ўвасабляе тэму хрысціянскай міласэрнасці: «Як трэба жыць» і як «людзей усіх любіць»...

Здаецца, засталося завяршыць наш дослед, выказаўшы меркаванне, што паэт Андрэй Зязюля — прататып Сарокі?

Уяўляю абурэнне тых, хто на працягу больш за паўстагоддзе бачыў у Якіме — Сокала ці Буравесніка. Галоўны іхні довад — «сам Купала ўвёў» ці «сам Купала не пярэчыў». Спасылаюцца на трыццаць шосты — трыццаць сёмы гады, калі горкаўская птушка-сімвал увайшла і ў пастановачны, і ў друкаваны варыянты п'есы. Так, Купала быццам — «не пярэчыў». Ды і паспрабуй было тады — пярэчыць супраць «Сокала» ці выставіць замест яго... «Зязюлю». Сёння ж тэма міласэрнасці — рэабілітаваная, таму я і асмельваюся выказаць здагадку, што Купала і тады—усё ж такі *пярэчыў*(?), бо на тытульнай старонцы першага выдання п'есы з варыянтам «Сокала» (1937 г.) ён загадаў рэдактару таго выдання І. Гурскаму зрабіць такую агаворку: варыянт — «з рэпертуару БДТ-ІІ». А гэта ці не азначала, што Купала не згаджаецца яго лічыць ні аўтарскім, ні кананічным? Што ж датычыць успамінаў І. Гурскага (якія датуюцца 20.5.1961 г.) аб тым, што быццам бы Купала *сам* прынёс яму «Паўлінку» з «Песняю аб сокале» — яны гучаць хутчэй як спроба самаапраўдання І. Гурскага, бо вельмі ўжо старанна ён даводзіць, што нічога ў п'есе не рэдагаваў, лічыў сябе нібыта нават не рэдактарам, а (толькі-толечкі) — «адказным за выданне», з-за таго, маўляў, і «падпісаў да друку ў гэткім выглядзе (як атрымаў)»; маўляў, «рэдагаваць (было) няма патрэбы». Нават быццам І. Гурскі як рэдактар — не хацеў уводзіць «Сокала», маўляў, на той падставе, што яго «ў ранейшых выданнях не было», і быццам бы Купала перад ім ці то апраўдваўся, ці то тлумачыў, што «ў ранейшых»... «гэтага» («урэзкі з «Сокалам») ён не рабіў нібыта «па цэнзурных меркаваннях»(!)... Маецца на ўвазе, пэўна ж, царская цэнзура? Дык няўжо баяўся ён яе і ў дваццаць сёмым годзе, калі тая самая «Паўлінка» друкавалася другім выданнем — *без уставак*? Толькі ў трыццаць сёмым — стаў «смялейшы»?

Перачытваючы ўважліва ўспаміны І. Гурскага, міжволі захапляешся дыпламатычнай далікатнасцю Купалы: настаяўшы на заўвазе, ён прымусіў выдаўцоў назваць сапраўднага «сааўтара» дапіскі і — адмежаваўся ад яе...

Прадбачу меркаванні: ці не выглядае яшчэ горшаю «дапіскай» зробленая мною спроба ўбачыць у Зязюлі-Астрамовічу жыццёвы прататып Сарокі?

Выпадкова ці не выпадкова, але ў тэксце п'есы, у абодвух варыянтах рукапісу — чыставым і белавым («перадцэнзурным» і «цэнзурным»!) — Сокала нідзе *няма*, затое ёсць — *зязюлька*. І ці выпадкова аўтар, не перапісаўшы п'есу начыстую, гэтак заспяшаўся — да *Зязюлі*? Нейкая ж была, відаць, *патрэба*? Думаю, што не зраблю памылкі, адгадаўшы гэтую «патрэбу» ў трох радках заключнага абзаца невялічкага пазнейшага артыкула Купалы «Вера і нацыянальнасць»: «Помніма, братцы, ці мы католікі, ці мы праваслаўныя,— мы беларусы, а Бацькаўшчына наша — Беларусь. Не мяшайма справы рэлігіі з нацыянальнасцю». Скрозь гэтыя радкі ці не прасвечваецца ўся рэальная сюжэтная канва «Паўлінкі»... і Купалу ў гэтай справе да Зязюлі вабіла, напэўна, тая акалічнасць, што апошні быў арганізатарам і старшынёю беларускай секцыі, утворанай у Пецярбургскай каталіцкай семінарыі, якую ён канчаў, — тады ж яны і пазнаёміліся, дзякуючы Б. І. Эпімах-Шыпілу — іх агульнаму настаўніку-апекуну. Калі мы хочам шчыра і непрадузята разабрацца ў праблематыцы «Паўлінкі», нельга абмінуць і тую акалічнасць, што Купала, пішучы сваё наступнае пісьмо да Б. І. Эпімах-Шыпілы (26.VII.1912), зноў паведамляе пра Зязюлю-Астрамовіча, на гэты раз ужо ў суседстве з псеўданімным прозвішчам ці не другога «прататыпа» ўсё таго ж Сарокі: «У суботу еду ў Стоўбцы да Коласа, а стуль да кс. Астрамовіча і дамоў». Ці не чытаў ён ім «Паўлінку» — двум паэтам, двум сваім калегам, двум апальным (Якуб Колас толькі што вярнуўся з Мінскага астрога)?.. І ці не тады ўжо нараджаліся ў Купалы-атэіста думкі, што пазней увойдуць у артыкульчык, які мы цытавалі вышэй: «Ці беларус праваслаўны, ці беларус католік павінен сабе ясна ўсведамляць, што ён сын сваёй Бацькаўшчыны, гаспадар свайго краю, і для дабра гэтай сваёй Бацькаўшчыны, для лепшай і святлейшай сваёй долі не павінен слухаць падшэптаў нянавісці да свайго брата, адкуль бы гэтыя падшэпты ні выходзілі. У нас на Беларусі і так, дзякаваць богу і добрым людзям, бяды і гора ўсякага хоць гаць гаці, дык нашто яшчэ падліваць смалы ў агонь?». Шкада, што пра сустрэчу ў Смольні самі Колас і Купала не пакінулі шырэйшых успамінаў, і толькі з вуснаў Коласа былы ягоны сакратар Максім Лужанін запісаў такую вось няпэўную «агульшчыну»: «Сядзелі мы і жаліліся на сваё няпэўнае жыццё». Шкада, што пры жыцці Якуба Коласа ніхто ў яго не запытаўся, ці не мае дачынення да

Друкуецца са скарачэннямі. Поўнасцю артыкул будзе змешчаны ў альманаху «Вобраз-1988».

 

хоўным жыцці і культуры народа, негатыўная роля уніі ў жыцці беларусаў (шлях да дэнацыяналізацыі, паланізацыі) і магчымая яе альтэрнатыва ў мірным суіснаванні дзвюх культур: польскай каталіцкай і беларускай праваслаўнай, іх творчы дыялог. Вучоныя даведаліся аб увядзенні ў праграму ЛДА новай дысцыпліны «Рэлігійная культуралогія», аб распачатай там працы па гісторыі Праваслаўнай царквы Беларусі канца XIX—XX стагоддзяў.

З цікавасцю выслухалі ўдзельнікі інфармацыйныя бібліяграфічныя агляды дысертацый і дыпломных работ на беларускую тэматыку, што распрацаваны ў апошнія дзесяцігоддзі ў Маскоўскай і Ленінградскай духоўных акадэміях. Іх няшмат, але матэрыял гэты быў невядомы.

З асаблівай цеплынёй адгукнулася аўдыторыя на шчырую зацікаўленасць родным, беларускім тых святароў, што жывуць далёка ад Беларусі. Гісторыя Беларусі, яе культура — не прафесія іх, а любоў сэрца. Яна гучала ў выступленні на добрай беларускай мове маладога святара, выкладчыка англійскай мовы і Святога пісання Маскоўскай духоўнай семінарыі Сергія Гардуна, ва ўсхваляваных словах вядомага доктара багасловія, прафесара МДА пратапрасвітара Віталія Баравога. Адчувалася, што ён з радасцю гаворыць на роднай мове, што гісторыя беларускага народа, царквы для яго вельмі важная.

У час сустрэчы выказваліся думкі, што выходзілі за межы калёквіума: аб неабходнасці ўзнаўлення Жыровіцкай семінарыі і яе некалі багатай бібліятэкі, аб выданні беларускага царкоўнага часопіса накшталт рускага і ўкраінскага, аб стварэнні ў Жыровічах спецыяльнага музея беларускай царкоўнай гісторыі і культуры. У кулуарах гаварылася аб патрэбе ў лекцыях для святароў па сучаснай беларускай мове і яе гісторыі, аб магчымым выданні Біблії па-беларуску.

Узаемная зацікаўленасць у пытаннях духоўнага жыцця, гісторыі і культуры Беларусі сведчыла аб своечасовасці і плённасці сустрэчы, арганізаванай па ініцыятыве мітрапаліта Філарэта і актыўна падтрыманай вучонымі сталіцы.

Удзельнікаў калёквіума віталі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый: Фонду міру, Фонду культуры, Дзіцячага фонду, пісьменнікі, царкоўныя дзеячы— ігумен з Украінскага экзархату РПЦ, настаяцель Еўфрасіннеўскай царквы г. Вільнюса, святары Рыма-каталіцкай царквы Беларусі, прадстаўнікі царквы адвентыстаў сёмага дня, евангелістаў. Усе яны гаварылі аб значэнні 1000-годдзя хрышчэння Русі і міратворчай, патрыятычнай ролі Рускай праваслаўнай царквы.

Праца калёквіума была вельмі добра арганізавана, з цёплай увагай да ўдзельнікаў і шчодрай гасціннасцю. Арганізаваная выстаўка пазнаёміла з юбілейнымі выданнямі Рускай праваслаўнай царквы — ілюстраванай газетай, часопісамі, царкоўнымі кнігамі, календаром, цудоўным альбомам Троіцка-Сергіевай лаўры, медалямі, значкамі, альбомамі грампласцінак з запісам старажытных царкоўных спеваў у выкананні лепшых хораў Рускай праваслаўнай царквы. Тут дарэчы больш падрабязна сказаць аб вельмі цікавым альбоме дыскаў «Пахвала беларускім святым». Ён уключае ўступнае слова мітрапаліта Філарэта, яго богаслужэнне ў дзень свята «Сабору беларускіх святых» (запіс 1987 г.: фрагменты ўсяночнай і літургіі), а таксама старажытныя трапары (слаўленні) «святым, у зямлі Беларускай прасіяўшым», — Еўфрасінні Полацкай, Кірылу Тураўскаму, Сафіі Слуцкай, славутым іконам Мінскай, Жыровіцкай, Казанскай Багамаці, царкоўныя спевы беларускіх кампазітараў у выкананні хору Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабору (пад кіраўніцтвам Л. Ракіцкага). Альбом дыскаў прыгожа аформлены, ілюстраваны фатаграфіямі помнікаў царкоўнай архітэктуры Беларусі і іконы Мінскай Багамаці (па паданні напісана апосталам Лукою, з 1500 г. знаходзіцца ў Мінску).

Удзельнікі сустрэчы азнаёміліся з прыгожай маленькай залаціста-белай царквой у імя «Сабора беларускіх святых», што па традыцыі заўсёды знаходзіцца ў архірэйскім доме. Гэта першая ў гісторыі Беларусі царква, свячоная ў імя ўсіх беларускіх святых. У іканастасе яе абраз з выявай 14 святых нашага краю. Мітрапаліт Філарэт расказаў, што свята «Сабор беларускіх святых» адзначаецца па благаслаўленню патрыярха Пімена з 1984 г. і ўнесена ў каляндар для ўсёй Рускай праваслаўнай царквы (трэцяя нядзеля пасля свята «Тройца»). Царква і ўвесь будынак Мінскага епархіяльнага ўпраўлення зроблены беларускімі майстрамі: архітэктарамі, будаўнікамі, мастакамі. У інтэр'ер будынка тактоўна ўведзены беларускія элементы афармлення. Ёсць добрыя копіі беларускіх абразоў. Да юбілейнага калёквіума строгая манументальнасць будынка МЕУ была з густам дапоўнена прыгажосцю кветак, фатаграфіямі царкоўных архітэктурных помнікаў, набажэнстваў, экуменічных сустрэч, народных святаў, гравюрамі, копіямі на шкле Спаса-Еўфрасіннеўскіх фрэсак. Спецыяльныя юбілейныя фотастэнды знаёмілі з гісторыяй і сучасным жыццём Праваслаўнай царквы ў Беларусі.

Першая сустрэча вучоных і багасловаў прайшла ў атмасферы ўзаемнай павагі і імкнення да сумоўнасці. Былі і дыскусіі, нават на вячэры, на якую запрасіў удзельнікаў мітрапаліт. Калёквіум сведчыў аб агульнай зацікаўленасці ў лёсе культуры Беларусі і духоўнасці народа, аб імкненні да плённага дыялога і ўзаемнага разумення пазіцый.

**В. ДЫШЫНЕВІЧ.**

---

Сарокі-«забастоўшчыка» ідэя п'есы «Забастоўшчыкі» самога Коласа? А Якімавы «афішкі» — да лістоўкі, «аўтарства якой было прыпісана Коласу і паслужыла фармальнай прычынай для зняволення яго ў крэпасці», — як сведчыць, зноў-такі, Максім Лужанін (с. 172)? Бо нездарма ж Паўлінка гэтак «паірытавана» пратэстуе супраць бацькавага нагавору на Якіма: «Ён нікому ніякай забастоўкі не рабіў». Мо і Якім Сарока сеў, як Колас, — за «адозву», аўтарам якой не быў?

Яшчэ ніхто з купалазнаўцаў быццам не задумваўся, адкуль у Пустарэвіча такая вось «інтэрмедыйная» мянушка — Барнашоў («Я, пане дабрудзею, Барнашоў, дзе пайшоў, там і прайшоў»). А «барнашоўскія» сляды, калі шукаць іх, знойдуцца.. у XVIII ст. Вось Купалава пісьмо да Б. І. Эпімах-Шыпілы ў Пецярбург з Акопаў ад 2.VI.1913 г.: «Перачытваю беларускія этнаграфічныя зборнікі — Шэйна, Смаленскі, апісанне Магілёўскай губерні і др.». Праз год пасля «Паўлінкі» — перачытвае! А як чытаў Купала, як ч ы т а н а е ўваходзіла ў н а п і с а н а е ім самім, пераплаўлялася, свяцілася пановаму жывымі фарбамі, пра гэта можна меркаваць на прыкладзе «Паўлінкі» і, прынамсі, праз мянушку Пустарэвіча (перачытаўшы інтэрмедыі ў «Смаленскім сшытку»): Барнашова Пустарэвіч ці не сам сабе стварыў з інтэрмедыйных рэплік беларускіх Змітракоў—Свірыдаў — Церыхаў, з іх успамінаў пра сваіх бацькоў, якія «маліваліся не па пісьмяннному, бъс чанашовъ, што паднявъ, то знашовъ, якъ уставъ, так і зачавъ». Адсюль ён, мабыць, і «зачавса» — Пустарэвіч-Барнашоў, — з рытмічна-рыфмаванай мовы беларускіх інтэрмедый, што дайшлі да нас у тым «Смаленскім сшытку»?

Ды і пустарэвічаўская «кабыла-заблудзіла» — ці не прыскакала і яна з інтэрмедыйных табуноў? Мо — з украінскай інтэрмедыі «Украдена кобила» да каляднай драмы Мітрафана Даўгалеўскага? Купала нават быццам тую ж рыфму захаваў: «кобила — заблудила». Тое самае і з тэмай «крадзяжу»: «Няма кабылы, дзе была.— Кабыла дзядзькава ўцякла ці хто ўкраў!».

А цяпер, калі «знайшоўся» Барнашоў, мы ці не маем права «памаракаваць», чаму ніхто з дасведчаных купалазнаўцаў не паспрабаваў знайсці адказ на вось такое «пакручастае» пытанне: як такое здарылася, што Купала даў Паўлінчынаму бацьку — і імя, і прозвішча (Сцяпан Крыніцкі) — з верша ўжо тады напаўзабытага ўкраінскага паэта Івана Некрашэвіча, які быў папярэднікам Івана Катляроўскага? Цікавая ж, прынамсі, акалічнасць: беларус Сцяпан Крыніцкі, да таго, як трапіць у «Паўлінку» і загаварыць па-беларуску.., жыў у XVIII ст. на Чарнігаўшчыне ў Вішанках, служыў дзячком манаскага прыходу, фігуруе як рэальная асоба ў вершы-запрашэнні Некрашэвіча, прысвечаным суседу Філіповічу, і тое запрашэнне мае пагуляністы настрой, падобны на святочную прыўзнятасць пагулянак у Купалавай «Паўлінцы».

Мо імя і прозвішча дзячка Крыніцкага Купала ўпадабаў, пачуўшы ў іх народную аснову і празрыстую «крынічнасць»? Разам з тым не выключаецца, што ў аўтарскай задуме існаваў намёк на праваслаўнае, «мужыцкае» паходжанне Паўлінчынага бацькі («А як пан Адольф думаў, хто мы? То ж таксама мужыцкага роду»)... Разам з тым — мо ў гэткім «перахрышчванні» былога праваслаўнага дзячка ў католіка і шляхту можна ўбачыць гаркаватую іронію Купалы-аўтара да ўласнай радаводнай кнігі, на якую дзед яго Анупрый разам з братам Людвігам патрацілі немалыя па тым часе грошы, абіваючы парогі ў геральдычным дэпартаменце, — даводзячы сваё шляхецкае паходжанне...

Вернемся, аднак, да інтэрмедый Мітрафана Даўгалеўскага, з яго «Каляднай драмы». Першая з іх мае назву «Поляк-астрольог між українськими селянами», і ў ёй Пархім пытае пра Астролага:

**А що бак ти у чорта, іскажи, за птиця,**
**Чи миш, чи кажан, чи перепелиця?**

Тое ж самае пытанне паўтараецца ў «падтэксце» першай інтэрмедыі да «Вялікоднай драмы» Мітрафана Даўгалеўскага, якую нашы беларускія даследчыкі звычайна «сарамліва» абмінаюць, бо яна ніяк не ўпісваецца ў «прагрэсіўную накіраванасць» і ў ідэю «руска-беларуска-ўкраінскага адзінства», на якіх даследчыкі грунтуюць вывучэнне інтэрмедый Даўгалеўскага. Мяркуйце самі: украінскія сяляне ставілі птушыныя цянёты, у якія трапіў... беларус. Сяляне думалі, што гэта нейкі звер, і, гэпнуўшы яму па галаве, забілі, каб не вырваўся, а потым пачынаюць разбірацца:

**Стійте, братця, що се ми встукали такее?**
**Звір, не звір щось так собі не сеэ, ні теэ.**
**Се ми із роду такого не видали дива:**
**Там чорне, там біле, голова вся сива...**
**Чуэ дух, що не жарти, се вже якийсь дідко!..**

А цяпер давайце працытуем з кнігі Я. Усікава «Беларуская камедыя» (Мінск, 1964, с. 87): «... інтэрмедыя Мітрафана Даўгалеўскага і Георгія Каніскага, выконваючы сваю традыцыйную, забаўнапацяшальную функцыю, побач з тым нясуць у сабе пэўную, часам даволі прыкметную грамадскую, ідэйна-палітычную нагрузку, закранаючы набалеўшыя пытанні часу, сярод якіх важнейшае месца належыць праблеме гвалтоўніцкага феадальна-польскага ўладарніцтва на Украіне і Беларусі. Прычым гэтая праблема... вырашаецца з пазіцый нацыянальных інтарэсаў беларусаў і ўкраінцаў: **з'яднанымі намаганнямі ўсходне-славянскія народы на чале з рускім, як правіла, выходзяць пераможцамі з розных выпрабаванняў.** Праз камедыйна-забаўную форму перадаецца **глыбокі грамадзянскі змест»** (падкрэслена мной.—**Г. К.**).

Высновы быццам правільныя. Дык чаму ж яны «баяцца» ці «саромеюцца» інтэрмедыі пра «Білоруса у тенетах»? — абмінаючы яе? А абмінаць не варта. Не таму, што той жа Я. Усікаў (а да яго і А. Семяновіч, а да А. Семяновіча — і П. Ахрыменка) механічна паўтараюць меркаванні папярэднікаў аб тым, што ва ўкраінскіх інтэрмедыях тэкст маналогаў беларуса (ці «літвіна») быццам бы ствараўся «беларускімі студэнтамі» (А. Семяновіч, «Беларуская драматургія», Мінск, 1961, с. 21). Наўрад ці беларус згадзіўся б свайго «дідко» заганяць у гэткія цянёты: «звір, не звір, щось так собі, ні сеэ, ні теэ». Тут, напэўна, трэба зразумець, якая ж «птушка» трапіла ў інтэрмедыйныя цянёты? З-за чаго наш продак стаў пасмешышчам? Якая гістарычная нагода ўклінілася паміж братнімі народамі?

«Нагода» — тая ж, зноў, што і ў артыкуле Купалы «Вера і нацыянальнасць», толькі тут ужо — на «міжнацыянальна-рэлігійным» грунце: украінцы-праваслаўныя сустрэлі беларуса-уніята ці акаталічанага.

Тую ж самую «нагоду» сустракаем мы і ў інтэрмедыі «Цыган з Літвінам» з наўгародскай драмы І. Адравонжа-Мігалевіча «Стэфанатокас» (1742).

Даводзіцца здзіўляцца, што гэтую інтэрмедыю Сабалеўскі ўвёў у 1 т. «Хрэстаматыі па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі» (Мінск, 1975, «Вышэйшая школа») — у якасці нацыянальнай, беларускай інтэрмедыі. Прафесар хоча нас пераканаць, што інтэрмедыя «Цыган з Літвінам», «...калі меркаваць не толькі па тым, што ў ёй паказаны вобраз Літвіна (так часта тады называлі беларусаў з-за таго, што Беларусь раней уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага), але і па мове, па стылістыцы, належыць семінарысту з Беларусі». На чыім аналізе стылістыкі і мовы А. В. Сабалеўскі будаваў сваю выснову, мы не ведаем, аднак жа мовы б е л а р у с к а й у Літвіна ў гэтай інтэрмедыі н я м а, ёсць іранічна-парадыйны «дыялект», стылізаваны пад «жаргон», пад «іншаземшчыну», з «прыцокваннем», з «сюсюканнем»: «что говорись (замест «гаворыш»), «не ворцы ты» («не бурчы»?), «всио лихо узь» («ужо»?) ці «науцысь» («научыся»?). А. В. Сабалеўскі, праўда, гэты іранічна-парадыйны (ці не «вяцкі»?) «дыялект» падчысціў, пераклаў на беларускую, не агаварыўшы ў каментарыях, што гэта — п е р а к л а д (а ён перакладаў — таксама з «перакладу»: па адаптацыі пад «украінскі» варыянт у кн. «Українські інтермедії XVII—XVIII стст.» (Киів, 1960). Так ён здабыў сабе **адзіны «доказ»** на карысць сваёй «гіпотэзы», што інтэрмедыя, маўляў, напісана нейкім невядомым нам «семінарыстам з Беларусі».

У аўтара (хутчэй за ўсё ў самога іераманаха І. Адравонжа-Мігалевіча) была задача — збэсціць беларуса як прадстаўніка Літвы і каталіцкае царкоўнае дактрыны, і таму Літвін паказаны як цёмны дурань, несапраўдны хрысціянін, што не ведае сваіх святынь, а толькі ўмее як «кийлы наводзиць и всиого знахарства». Вось такую «птушку», блаславіўшы, выпусцілі дзве аўтарытэтна-навуковыя ўстановы — «для студэнтаў тэатральных факультэтаў ВНУ». І студэнты—вывучаюць. Механічна. Без адказу на пытанне «што за птушка».

І ўсё ж давайце вернемся да версіі, якую нам пакінуў І. Гурскі: «Сокал» у Купалы быў, маўляў, «у марах» — з самага пачатку, толькі «па цэнзурных меркаваннях» аж да трыццаць сёмага чакаў «урэзкі». І разгорнем кнігу П. Малчанава «Тэатр — жыццё маё», дзе на с. 75—76 народны артыст СССР успамінае пра сваю работу над «Паўлінкай» у 1936 г. у БДТ-ІІ (адкуль праз год, у 1937-м, з'явіцца на тытульнай старонцы друкаванага выдання п'есы тая самая заўвага: «З рэпертуару БДТ-ІІ»):

«Мне хацелася зрабіць вобраз Якіма Сарокі ў «Паўлінцы» больш вызначаным, акрэсленым у палітычных адносінах. Па п'есе гэтага не адчувалася. Якім Сарока прыходзіць да Паўлінкі на спатканне і прыносіць ёй забароненую кніжку. Больш пра яе нічога не гаварылася»...

Тут — стоп! Якая — «забароненая кніжка»? У якім з выданняў п'есы паважаны аўтар мемуараў «выявіў» яе, і як у п'есе «гаварылася», што кніжка — «забароненая» (калі «больш нічога пра яе не гаварылася»)? Кім — «гаварылася»? Пройдземся вачыма па наступных двух «малчанаўскіх» абзацах:

«Я прапанаваў Купале такі варыянт: Паўлінка бярэ кнігу і марудна, няўмела чытае: «Максим Горький. «Песня о Буревестнике». Потым Якім забірае ў яе кнігу і чытае сам.

Купала не пярэчыў. **Цяпер гэта неад'емны тэкст «Паўлінкі»** (падкрэслена мной. — **Г. К.**), а ўпершыню ігралася так толькі ў нашым спектаклі».

Зноў тут — стоп!

Як так здарылася, што П. С. Малчанаў называе «неад'емным» — «Буравесніка», а І. Гурскі ў «кананічны» тэкст уводзіць — «Сокала»?

А сам Купала — як лічыў? У трыццаць шостым «не пярэчыў» (у тэатры) супраць «Буравесніка»? А ў трыццаць сёмым «сам прынёс» у выдавецтва — «Сокала»? Чаму, нарэшце, у адным выпадку — толькі «не пярэчыў», а ў другім (праз год) сказаў, што сам даўно хацеў, але не «ўрэзаў» — «па цэнзурных меркаваннях» (і тады ўжо не Купала, а «адказны за выданне» І. Гурскі — «не пярэчыў»)?..

Як ні маракуй, а выйдзе, што не мог Купала напісаць сваёю ўласнаю рукой такую неахайную рэмарку для Паўлінкі: «Абнімае Якіма, раптам знаходзіць у кішэні кнігу». Непадобна гэта на Паўлінку — мацаць хлопца па кішэнях. Не падобна на Якіма — заляцацца да дзяўчыны на трыбунна-барыкадны лад. І не падобна на Купалу — спакушаць паненку «яснапенкную» — чужымі вершамі...

Няўжо ніхто не заўважае, што з-за «ўстаўкі» адбываецца разрыў купалаўскага тэксту «па жывому», бо ў яго было — Паўлінка кажа: «Заўтра мае быць трохі гасцей...», і — тады Якім услых падумаў: «Та-ак! Значыцца, тым кшталтам, вечарынка будзе». Паспрабуйце паміж гэтымі ўзаемазвязанымі фразамі чытаць... «Песню аб Сокале», з якога месца пачынаць яе, і на якім фрагменце твора лепш за ўсё спыніцца, каб пасля Вужа ці Сокала Якім пераключыўся на «праблему» вечарынкі?. Не, Купалава рука сама зрабіць такое не магла. Дарэмна І. Гурскі заніжаў свае паслугі аўтару «Паўлінкі». А падмена «Буравесніка» на «Сокала» — ці не звычайны «недагляд» самога І. Гурскага, які, напэўна, чуў, што ў віцебскім спектаклі нешта ўставілі «рэвалюцыйнае», а што — не ўдакладніў, і ўставіў «абы птушку», абы з Горкага.

Увядзенне «Буравесніка» ў «Паўлінку» (як і «Сокала») было прадыктавана, паўтараю,— добрымі намерамі, якія дыктаваліся нядобрым часам. Ён даўно мінуў. У атмасферы ачышчэння нашага грамадства ад жахлівай спадчыны таго перыяду мы абавязаны ачысціць ад яго напластаванняў — спадчыну класічную, і чым хутчэй мы гэта зробім, тым ямчэй нам будзе пачувацца перад нашымі нашчадкамі.



 